ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №101 — 102 (4458 — 4459) СУБОТА, 17 снежня 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## НГ-ІНФАРМ

ФОТАФАКТ

У апошні час у Мінску ўсё часцей праводзяцца разнастайныя рэгіянальныя і міжнародныя выставы. На жаль, для большасці простых жыхароў сталіцы яны застаюцца незаўважанымі.

Выключэннем, бадай, стала выстава-продаж тавараў для дзяцей, якая прайшла нядаўна ў Рэспубліканскім палацы моладзі. Каля трыццаці фірм з Беларусі, Украіны, Расіі прапанавалі на ёй свае тавары. Быў тут і стэнд нашага міністэрства. Асабліва спадабаліся ўсім вядомыя лялькі Барбі і вялізная гумавая малпа, на якой можна было паскакаць кожнаму дзіцяці.

Асноўная мэта выставы, па словах яе арганізатараў, стварэнне "каманды" і набыццё вопыту правядзення такіх мерапрыемстваў дасягнута. Мара дзяцей таксама здзейснілася: яны пабывалі на свяце.

Фота Юрыя БОНДАРАВА.

### НАЗНАЧЭННЕ Ў МІНІСТЭРСТВЕ АДУКАЦЫІ І НАВУКІ

ДАМАНЕЎСКІ Дзмітрый Сяргеевіч назначаны начальнікам Галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі.

Даманеўскі Д.С. 1940 года нараджэння, адукацыя вышэйшая. Закончыў Белдзяржуніверсітэт у 1962 годзе, па спецыяльнасці фізік, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар.

Працаваў загадчыкам кафедры эксперыментальнай і тэарэтычнай фізікі.

### СУСТРЭЧЫ НА БРЭСТЧЫНЕ

На мінулым тыдні міністр адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь В.Стражаў знаходзіўся ў службовай паездцы на Брэстчыне, дзе сустрэўся з педагагічнымі калектывамі і правёў рабочыя сустрэчы з мэтай абмеркавання надзённых адукацыйных і выхаваўчых праблем. У ходзе наведання В.Стражаў прыняў удзел у пасяджэнні прэзідыума Рэспубліканскай Рады дырэктараў школ, на якой абмяркоўвалася Канцэпцыя выхавання ў Рэспубліцы Беларусь.

Міністр адукацыі і навукі блізка пазнаёміўся з педагагічным калектывам Баранавіцкага педагагічнага каледжа і яго працай. Важным момантам візіту з'явілася адкрыццё першай часткі дзіцячай вёскі ў форме дзіцячага дома сямейнага тыпу ў Кобрыне, у якім прыняла ўдзел нямецкая дэлегацыя зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія.

Віктар ІЎЧАНКАЎ.

ЗА КАМЕНТАРАМ — ДА ДЫРЭКТАРА

### І Ў ГАЛАНДЫІ ВЕДАЮЦЬ НАШЫХ

Навучэнцы Мінскага ВПВ сферы абслугоўвання вярнуліся з паездкі ў Галандыю. Разам з імі краіну наведаў і дырэктар вучылішча Уладзімір Гарашчэня, які і каменціруе гэтую падзею:

— Ініцыятарам такіх дзелавых узаемін сталі нашы галандскія калегі, якія напачатку 1994 года выступілі з прапановай наладзіць абмен вопытам у працэсе навучання роднасных прафесій — работнікаў банкаў і сакратароў-рэферэнтаў нашага вучылішча і каледжа горада Эйндховена ў Галандыі. У маі да нас прыехалі дзесяць юных галандцаў з двума выкладчыкамі, якія на працягу тыдня знаёміліся з матэрыяльна-тэхнічнай базай ВПВ, пабывалі на ўроках, знаёміліся са сталіцай Беларусі. Жылі госці ў сем'ях нашых навучэнцаў.

А ў кастрычніку з такім жа візітам накіраваліся лепшыя нашы дзесяць навучэнцаў разам з выкладчыкам англійскай мовы Віктарам Станіслававічам Долматам. Праграма паездкі была вельмі насычанай.

Мы сустрэліся з навучэнцамі і выкладчыкамі Эйндховенскага каледжа, мелі магчымасць пазнаёміцца з навучальным працэсам гэтай установы, з сучаснымі формамі навучання і выхавання. Жылі мы таксама ў сем'ях галандскіх навучэнцаў, якія прадаставілі нам выдатныя ўмовы пражывання і захапляльную культурную праграму. Мы азнаёміліся са славутасцямі горада Эйндховена, пабывалі ў яго тэатры.

Напрыканцы візіту дамовіліся з галандскімі калегамі па абмене навучэнцамі для праходжання вытворчай практыкі.

Інтэрв'ю ўзяла Ала КЛЮЙКО.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ НА ЎРОКУ

### ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ 20-х і ў 30-я гг. XX ст.

22, 23 снежня — 9-ы клас

Размова ў перадачы пойдзе пра рэзкі паварот у палітыцы да развіцця культуры Беларусі, які пачаўся ўжо ў канцы 20-х і працягваўся ў 30-я гады. Прадстаўнікі старога чыноўніцтва ўспрынялі палітыку беларусізацыі рэзка адмоўна. Падобным жа чынам успрыняла яе частка інтэлігенцыі нацыянальных меншасцяў. Не ўдалося пазбегнуць некаторых перагібаў і ў правядзенні самой беларусізацыі — фарсіраваліся тэмпы, рабіўся націск на адміністрацыйныя метады. У 1930 годзе ўсё рэзка мяняецца. З канца 20-х гадоў пачынаецца кампанія па разгрому так званага "нацыянал-дэмакратызму". Як разгортвалася гэтая кампанія рэпрэсій на Беларусі, да якіх вынікаў яна прывяла — аб гэтым падрабязна будзе расказана ў тэлеперадачы. Вучні ўбачаць рэдкія кінакадры, дакументы, фотаздымкі, пачуюць успаміны сведкаў тых падзей...

Аўтар і вядучы — кандыдат гістарычных навук А.КАРОЛЬ.

### БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА
АД ІМЯ НАРОДА (ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ І ЯГО ТВОРЧАСЦЬ)

20, 21 снежня — 9 клас

Тэлеперадача асвятляе асноўныя этапы жыццёвай дарогі адной з найбольш яркіх фігур у гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя — нацыянальнага паэта Францішка Багушэвіча. Дзевяцікласнікі даведаюцца пра юнацтва і вучобу будучага паэта, яго ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, пра выезд маладога паўстанца за межы беларускага краю і далейшую вучобу, пра шматгадовую працу ў судовых установах, пра сям'ю паэта і яго вяртанне на радзіму. Асаблівая ўвага аддаецца адвакацкай дзейнасці Ф.Багушэвіча па абароне інтарэсаў простага люду.

Асноўная частка перадачы прысвечана агляду творчасці паэта, характарыстыцы яго вершаваных зборнікаў "Дудка беларуская" і "Смык беларускі", аналізу найбольш вядомых і важных у ідэйных адносінах вершаў. Распавядаецца пра ўмелае спалучэнне ім народных традыцый і наватарства ў тэматыцы і вобразнай сістэме. Вучні пачуюць узнёслы паэтычны маналог пра родны край, прачулы сказ пра бацькаву спрадвечную мову, якая завецца беларускай.

Аўтар перадачы — Уладзімір СОДАЛЬ.

### ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
ПАЎСТАННЕ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ (1794 г.)

19, 20 снежня — 7 клас

Новая тэлеперадача створана на матэрыялах святкавання 200-годдзя паўстання пад кіраўніцтвам выдатнага сына беларускага народа Тадэвуша Касцюшкі і яго паплечнікаў: Я.Ясінскага, М.Агінскага і іншых.

Пачынаецца перадача дакументальнымі тэлекадрамі святкавання Дня Незалежнасці 27 ліпеня 1994 г. у Мінску. Потым вучні з дапамогай тэлекамеры наведаюць юбілейную выставу Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, прысвечаную 200-годдзю паўстання 1794 г., пабываюць у родных мясцінах Т.Касцюшкі; даведаюцца аб трагічным лёсе ўдзельнікаў паўстання пасля яго паражэння, аб стварэнні помнікаў у Еўропе і Амерыцы нашаму знакамітаму суайчынніку.

Заканчваецца перадача кінакадрамі святкавання, якое адбывалася ў Гродне летам 1994 года...

Аўтар — Яўген МАЗО.

## Нацыянальная педагагічная рада: абмяркоўваем стратэгію рэфармавання адукацыйнай сістэмы

## А ЦІ ЗМЕНІЦЦА НАСТАЎНІК?

Вялікую ролю ў рэфармаванні школы выконваюць кіраўнікі школ. Ад іх працы, вопыту і ведання школьных спраў залежыць шмат. Калі кіраўнік сам слабы настаўнік і займаецца толькі гаспадарчымі пытаннямі, а яго намеснік не ведае, як прааналізаваць урок, ці саромеецца сказаць настаўніку, што ўрок не атрымаўся, калі намеснік не ведае што сказаць ці параіць настаўніку ў тым ці іншым выпадку, то ніякія намаганні настаўнікаў-адзіночак не выратуюць ні школу, ні рэформы. Кіраўніцтва школ трэба таксама перападрыхтоўваць, а многіх проста замяніць, бо яны ўжо не змогуць перабудавацца самі і перабудаваць свае калектывы на новы лад.

Некалькі гадоў таму назад я сам працаваў і дырэктарам, і намеснікам дырэктара школы, і ведаю, што ад людзей на гэтых пасадах залежыць многае: і атмасфера ў школе, і працаздольнасць педагагічнага калектыву, і пошук новага ў навучанні і выхаваўчай рабоце, і сувязь з бацькамі, і развіццё самога настаўніка, заахвочванне яго пошукам новага і г.д.

Таму я лічу, што пачынаць рэфармаванне школы трэба з настаўніка і кіраўніцтва школы.

Ці доўга яшчэ мы будзем жыць так, як жывём? Ад каго залежыць наш рух наперад? У першую чаргу, я так лічу, ад адукацыі, ад таго, чаму навучаць нашых дзяцей. Але і ад таго, хто іх вучыць.

Хто ж вучыць нашых дзетак сёння? Ды ўсё тыя ж, хто вучыў іх і ўчора. Тыя, хто выкладаў грамадазнаўства, гісторыю СССР, літаратуру сацыялістычнага рэалізму і г.д., тыя, хто пакорліва выконваў усе загады райкамаў КПСС/КПБ, рыхтаваў адданых справе будаўніцтва камунізму маладых людзей. Яны ж нікуды не зніклі, іх ніхто не перавучваў. А настаўнік заўсёды быў чалавекам кансерватыўным. І каб замяніць што-небудзь у яго думках, трэба затраціць шмат часу, а ці зменіцца што-небудзь у яго поглядах, яшчэ невядома.

Настаўнік-раб можа выхаваць толькі падобнага сабе вучня. А тое, што нашы настаўнікі па гэты час з'яўляюцца рабамі — гэта аксіёма. Прыкладаў хоць адбаўляй. Не трэба далёка ісці. У школе, дзе я працую, з застою яшчэ не выходзілі. Наадварот, многія смуткуюць па тым часе, калі зараблялі па 100-140 рублёў. А за гэтыя мізэрныя грошы трэба было выконваць абавязкі настаўніка і няштатнага агітатара райкама партыі перад выбарамі, перад з'ездам, пасля яго, перапісваць то кароў, то свіней, то бегаць па кватэрах бацькоў, рыхтавацца да выступленняў на палітзанятках. Але ж звыкліся з гэтымі заняткамі. Звыкліся з кампартыяй, якая заўсёды давала метадычныя дапаможнікі да ўрокаў. Праводзь, як сказала партыя, ці ад яе імя дырэктара, і заўсёды будзеш добры.

Цяпер прыйшоў іншы час. Трэба самім думаць выпрацоўваць свой пункт гледжання на тое ці іншае пытанне. А ўжо не можам. Бо ўсё жыццё пражылі чужым розумам і скардзяцца цяпер такія настаўнікі на дэмакратыю, якая яшчэ толькі заглянула ў нашу Рэспубліку адным вокам, і праклінаюць тых, хто адстойвае свае нацыянальныя традыцыі ў адукацыі, бо іх жа трэба зноў вывучаць, абураюцца на тыя змены ў праграмах, якія ўводзяцца ў школах, бо многага і самі не ведаюць з таго, што прапануецца гэтымі праграмамі, а дапаможнікаў і метадычак яшчэ не паспелі надрукаваць, і трэба шмат якія матэрыялы шукаць самім у газетах і часопісах. А мы так адвыклі ад самастойнасці і чытання, што ўжо лянуемся гэта рабіць. І ўсё новае ўспрымаецца ў штыкі.

Я не хачу сказаць, што так жыве ўсё наша настаўніцтва, але такіх большасць. А тых, хто пачаў жыць па-новаму, кансерватыўна настроеныя педагогі сустракаюць не вельмі ветліва. Заўсёды знойдзецца магчымасць падлавіць таго, хто працуе па-новаму. А калі такі настаўнік атрымае, не дай бог, вышэйшую катэгорыю, то пра гэта будуць згадваць як пра злачынства. І адчуе тады руплівец-адзіночка сябе вінаватым перад таварышамі.

Нашы педкалектывы раз'ядае зайздрасць, сваркі, плёткі, дзяленне на групоўкі. Хіба яны дапамогуць у справе навучання і выхавання?

Цяпер зноў пайшлі размовы аб перабудове і рэфармаванні школы. Усё гэта добра. Але ж першачарговая перабудова павінна пачынацца не з гэтага. Першачаргова трэба перабудаваць самога настаўніка. Катэгорыя патрэбна для новай нацыянальнай школы. А то што ж атрымліваецца, калі намеснік дырэктара крывіцца ад беларускай мовы, а настаўнікі, гледзячы на яго, пачынаюць надсміхацца над тымі, хто размаўляе на сваёй мове? Што ж атрымаецца з вывучэння гісторыі Беларусі, калі настаўнікі самі яе ведаюць толькі са школьнага падручніка, і не ведаюць, як адказаць вучням аб падзеях нашай мінуўшчыны, такіх, як Аршанская бітва, напрыклад? Што ж атрымаецца з таго, што настаўніца пачатковых класаў жаліцца дырэктару на тое, што ў кнізе для чытання для другога класа пад тэкстам няма тых пытанняў, якія павінны высвеціць у працэсе чытання? Што ж атрымаецца з таго, што ў школах зноў пачынаецца масавы прыгон у піянерскія арганізацыі?

Усе рэформы праводзяцца ў жыццё не пастановамі, а іх выканаўцамі, настаўнікамі. І калі настаўнік не адчувае патрэбы у рэфармаванні, калі ён не захварэў гэтай "хваробай", то ніякай перабудовы не атрымаецца.

На мой погляд, трэба распрацаваць буйнамаштабныя праграмы па перападрыхтоўцы настаўнікаў у першую чаргу. У планы перападрыхтоўкі абавязкова ўключыць вывучэнне роднай мовы і гісторыі, геаграфіі, новых накірункаў у педагогіцы, псіхалогіі, методыцы выкладання, а таксама па змесце новых праграм. Заканчвацца курсы перападрыхтоўкі павінны строгім экзаменам на адпаведнасць той катэгорыі, якая прысвоена настаўніку. Тады, можа, і атрымаецца перабудова школы.

Васіль СТАРАВОЙТАЎ, настаўнік.

## АДКУЛЬ ЛЕПЕЙ ТАНЦАВАЦЬ

Такім чынам, распачынаецца чарговая рэформа сістэмы адукацыі, стратэгія якой вынесена Міністэрствам адукацыі і навукі на абмеркаванне педагагічнай грамадскасці. Гэта ж якая яна будзе па ліку?

Пры Мікіце Сяргеевічу бацькам далі права выбіраць мову навучання. Пры абмеркаванні ў сродках масавай інфармацыі ўсе былі "за" (не адмаўляю, што некаторыя "супраць" проста выкідваліся рэдакцыямі на сметнік). Тады была мода на "аднагалоснасць". І тым не менш абсалютная большасць бацькоў выбрала мову навучання для сваіх дзяцей — РУСКУЮ. Так былі загублены на карані нацыянальная школа, беларуская мова. У горадзе Бабруйску пасля гэтай "рэформы" былі закрыты апошнія школы з беларускай мовай навучання па прычыне адсутнасці жадаючых вучыцца на нацыянальнай мове.

А цяпер мы шумім і абвінавачваем ва ўсіх смяротных грахах партакратаў і тых, хто з імі. Але ж мову навучання выбіралі бацькі. У Грузіі і пры Хрушчове навучанне ў школах вялося на роднай мове, ва Узбекістане таксама... А ў нас даходзіла да абсурду. Напрыклад, у сярэдняй школе №27 у адным з класаў урокі беларускай мовы наведваў адзіны вучань — сын тагачаснага першага сакратара гаркама КПСС Варывончыка.

У навучальны курс матэматыкі ўводзілі элементы вышэйшай матэматыкі, а потым "адкаціліся" назад, але напачатку адкаціліся "назад" веды вучняў.

А потым пачаліся бясконцыя "рэфармаванні" навучальных праграм па прадметах, прычым у асноўным толькі ў адным накірунку — у бок пашырэння і павелічэння аб'ёму вывучаемага матэрыялу.

Падручнікі, якія былі зразумелыя большасці вучняў (бо былі напісаны ў асноўным метадыстамі), пачалі замяняцца падручнікамі, напісанымі вучонымі на такім высокім навуковым узроўні, што самы час прапаноўваць іх не вучням, а аспірантам. Ад іх адварочваліся не толькі вучні, але нават і настаўнікі. Скажам, замест даступнага для вучняў падручніка па фізіцы Пёрышкіна па раздзеле "Механіка" з'явіўся падручнік па ...тэарэтычнай механіцы акадэмікаў Какоіных. На абурэнні настаўнікаў прэса адказвала або магільным маўчаннем, або зняважлівымі водпаведземі ў недастатковай кампетэнтнасці тых жа акадэмікаў ды прафесараў.

А колькі было розных "наватарскіх" метадаў: ліпецкі ды разанскі, тамбоўскі ды казанскі!.. І ўсе яны навязваліся настаўнікам у адміністрацыйным парадку. "Не ўмееш — навучым, не хочаш — прымусім". Калі першае проста дэкларавалася, то другое нязменна ажыццяўлялася. Вось жа быў вясёленькі час: прыходзіць на ўрок, скажам, дырэктар або інспектар — калі ласка, ліпецкі метад, а застаешся сам-насам — "даеш!" свой, апрабаваны метад.

Паспяховасць у школах узнялася на "небывалую" вышыню, ушчыльную наблізіўшыся да адзнакі ў 100 працэнтаў, а веды пакаціліся па нахільнай плоскасці да ўзроўню, блізкага да адзнакі "невук", "нязнайка". Менавіта ў гэтыя гады і зарадзілася "славутае" рэпетытарства на даму. У тыя гады яно было на паўлегальным становішчы, а цяпер без яго не сунешся ні ў адну прэстыжную ВНУ.

Увялі школьнае навучанне з 6 гадоў, пазбавіўшы, такім чынам, дзяцей дзяцінства. А зараз на кожным перакрыжаванні вохкаем ды ахкаем: большасць дзяцей маюць тыя ці іншыя адхіленні ў здароўі, а ў ваенкаматах разводзяць рукамі — няма каго прызываць у армію, а таму, заплюшчыўшы вочы, бяруць агулам. У сукупнасці з невыкаранялънай "дзедаўшчынай" з арміі часам прыходзяць не пасталеўшыя, а паўінваліды.

Па "сакрэту" прызнаюся: сыну я не рэкамендаваў пасылаць унука ў школу ў 6-гадовым узросце. (Ён так і зрабіў). За 11 гадоў яшчэ паспее пагарбаціцца за партай. Веды — добра, а здароўе — усё ж лепш. Да таго ж добра памятаю, што да вайны ў першы клас прымалі з 8-гадовага ўзросту.

Дык навошта ж чарговая рэформа, калі папярэднія практычна нічога не далі школьнай адукацыі? Не ведаю, як у іншых, але ў мяне асабіста слова "рэформа" выклікае непрыемнае адчуванне, а калі дакладней — агіду.

З 1985 года, калі на чале былога СССР стаў Гарбачоў, толькі і чулі: "рэформа", "рэформа", "дэмакратыя", "галоснасць" і г.д. І да таго мы дарэфармаваліся, што сёння большасць народа ператварылася ў жабракоў, а наперадзе ж чарговыя рэформы і ніякага пробліску ў паляпшэнні жыцця. Мы нават не ведаем, якое грамадства будуем, што нас чакае наперадзе. Сёння наш урад разам з прэзідэнтам левую руку працягнулі ў бок Расіі, а правую — у бок ЗША, Германіі, МВФ і г.д. Гэта, з аднаго боку, а з другога — угадваюцца запэўніванні: "Слухаюся, слухаюся! Зробім, як загадаеце!".

Вось і Міністэрства адукацыі і навукі ў многім пераймае сваю канцэпцыю, у тым ліку і 12-гадовае навучанне, усё адтуль, з-за бугра. Ходзім паўгалодныя, а ўсё глядзім туды: вельмі хочацца, як у іх. І чамусьці цалкам забываем, што стартавыя пазіцыі ў нас зусім іншыя. Ніякая канцэпцыя, ніякая рэформа не дасць школе нічога добрага, калі настаўнікі атрымліваюць жабрацкую зарплату, калі вучні падаюць на ўроках у непрытомнасці па прычыне недаядання, калі рэкет увайшоў паўнапраўным гаспадаром у школьнае жыццё (вучні больш старэйшых узростаў адымаюць грошы, рэчы і інш. у больш слабых). Настаўнікі ўжо не памятаюць, калі яны набывалі апошні раз хоць які-небудзь самы танны прыбор, не кажучы ўжо аб дасканалым абсталяванні. Школа сёння жыве і трымаецца на абсталяванні, набытым у асноўным у апляваныя на ўсіх перакрыжаваннях "застойныя гады". Тады мы хоць стаялі на месцы, а цяпер коцімся назад, ушчыльную падышоўшы да галодных пасляваенных гадоў.

Тое, што прапануе міністэрская стратэгія, можна ажыццявіць праз 15—20 гадоў, калі мы, зразумела, не станем і ў наступныя 2—3—5 гадоў каціцца назад. Дык навошта агарод гарадзіць? Сёння гэта канцэпцыя разам са стратэгіяй выглядаюць чымсьці накшталт вечнага рухавіка.

А што ж можна зрабіць сёння або ў бліжэйшыя гады?

1) Трэба перайсці на школьнае навучанне з 7-гадовага ўзросту. Гэтым мы захаваем здароўе нашых дзяцей пры цяперашнім цяжкім эканамічным становішчы ў краіне, калі дзеці не атрымліваюць паўнацэннага харчавання.

2) Ліквідоўваць перагрузку вучняў трэба не за кошт увядзення 12-га года навучання, а шляхам удасканалення праграм, навучальных планаў і падручнікаў. Не трэба імкнуцца ў школе ахапіць неабсяжнае. Падручнікі для школьнікаў павінны пісаць метадысты і вопытныя настаўнікі, а не тыя, хто пра школьны працэс ведае па кнігах. Лепш падрыхтаваць даступны для вучняў падручнік на менш высокай навуковай аснове, чым незразумелы падручнік на завоблачнай навуковай аснове.

3) Не трэба пудрыць мазгі сумленнаму народу living рознымі какетлівымі назвамі тыпу "гімназія", "ліцэй", "рэальнае вучылішча", "кадэцкі корпус" (няма? Дык хутка будуць), "універсітэт", "акадэмія" і г.д., калі мяняецца не сутнасць, а шыльда. (Дарэчы, бацькі занепакоены вялікай перагрузкай вучняў у гэтых ліцэях ды гімназіях). Навошта нам гэтыя імпартныя "бакалаўры" ды "магістры"? Мо лепш ужо што-небудзь рускае накшталт "ваша правасхадзіцельства стацкі саветнік" або які-небудзь "генерал ад інфантэрыі".

4) Калі не будзе павышана прэстыжнасць адукацыі наогул і вышэйшай у прыватнасці, то ніякія пераўтварэнні, перабудовы і іншыя пeратурбацыі нічога добрага не дадуць. Што толку ад наваций тыпу "бакалаўр", "магістр", калі нашы кандыдаты, дактары, дацэнты ды прафесары атрымліваюць за месяц столькі, колькі зарабляе прадавец "камка" за адзін дзень? Вось адкуль і трэба танцаваць, а не ператвараць захудалыя інстытуты ва універсітэты ды акадэміі. Калі прафесару дадуць у тэхнікуме аклад утрая вышэй, чым ва універсітэце, то ён, бадай, пяройдзе на работу туды.

5) На мой погляд, сёння ў Міністэрства адукацыі першачарговай задачай, задачай-максімумам павінна быць наступная: дабівацца ад урада калі не дастатковага, то хаця б неабходнага фінансавання адукацыі. Цалкам і поўнасцю падзяляю думку Н.Баранавай: "Можна назваць шмат бліскучых і смелых педагагічных ідэй, якія не былі рэалізаваны па прычыне таго, што не падмацоўваліся фінансава і тэхналагічна, не забяспечвалася гатоўнасць сістэмы адукацыі да іх ажыццяўлення" ("НГ", №94). Так, так, менавіта так, інакш усе канцэпцыі і стратэгіі ператворацца ў звычайнае пражэкцёрства.

Яўген ШЫРОКІ, педагог.

ЮБІЛЕІ

## Выпускнік фізфака? Значыць добры спецыяліст!

**Споўнілася 20 гадоў фізічнаму факультэту Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта. Наш пазаштатны карэспандэнт гутарыць з дэканам факультэта, прафесарам Уладзімірам Якавенкам.**

— Уладзімір Андрэевіч, калі ласка, некалькі слоў пра сваіх калег па працы.

— На факультэце больш як 70 працэнтаў выкладчыкаў — былыя нашы выпускнікі. Сярод іх і моладзь, і педагогі старэйшага пакалення. Многія з іх працуюць на факультэце па 30 і больш гадоў. З іх чатыры прафесары, 35 дацэнтаў.

Дзякуючы агульным намаганням гэтых людзей мы маем на факультэце самую сучасную матэрыяльную базу, якой не валодае ні адна педагагічная навучальная ўстанова краіны.

— Якія новыя сучасныя метады навучання прымяняюцца выкладчыкамі?

— Большасць лабараторных практыкумаў выконваецца франтальным метадам, што дае вялікія перавагі пры засваенні навучальнага матэрыялу, спрыяе больш арганічнаму спалучэнню тэарэтычных ведаў і практычных навыкаў. Пры чытанні лекцый і правядзенні практычных заняткаў шырока выкарыстоўваюцца аўдыё- і відэатэхніка, замкнутая тэлевізійная сістэма. У апошні час распрацоўваюцца і ўкараняюцца ў працэс новыя інфармацыйныя тэхналогіі на базе сучасных ЭВМ. Так, дацэнт Г.А.Забароўскі распрацаваў універсальнае інтэграванае штучнае педагагічнае асяроддзе, якое забяспечвае суправаджэнне розных відаў навучальнай дзейнасці студэнтаў і выкладчыкаў. Істотныя адрозненні ад большасці вядомых праграм заснаваны на выкарыстанні тэорыі штучнага інтэлекту ў спалучэнні з псіхолага-педагагічнымі і метадычнымі патрабаваннямі.

Гэтае асяроддзе дазваляе студэнтам працаваць на ЭВМ па розных прадметах як у рэжыме навучання, так і ў рэжыме кантролю і самакантролю. На факультэце шырока выкарыстоўваюцца і іншыя інавацыйныя метады навучання.

— Як развіваецца метадычная навука?

— Амаль усе выкладчыкі прама ці ўскосна займаюцца пытаннямі методыкі навучальнага працэсу. Па-першае, распрацоўваюцца метадычныя ўказанні да лабараторных работ па розных дысцыплінах, якія выкладаюцца на факультэце. Па-другое, многія нашы выкладчыкі з'яўляюцца аўтарамі шматлікіх дапаможнікаў, выпушчаных выдавецтвамі "Народная асвета" і "Вышэйшая школа".

У сувязі з пераходам на беларускую мову навучання перакладаюцца дапаможнікі, удакладняецца фізічная тэрміналогія.

Здадзены ў выдавецтва дапаможнікі на беларускай мове па малекулярнай фізіцы, электрычнасці, оптыцы, квантавай фізіцы, лабараторных работах па курсе агульнай фізікі. Па абсалютнай большасці спецыяльных дысцыплін, якія выкладаюцца на факультэце, ужо напісаны або знаходзяцца ў выдавецтве падручнікі і навучальна-метадычныя дапаможнікі. Напісаны навучальны дапаможнік "Фізіка" на беларускай мове для ССНУ, на яго базе рыхтуецца "Зборнік задач".

— А як у цэлым жыццё на факультэце?

— Як кажуць, не хлебам адзіным... Таму мы і вучымся, і працуем, і адпачываем, і весялімся. Ёсць свае традыцыі, факультэцкія святы, напрыклад, "Дзень фізікі", "У гасцях на кафедры матэматыкі", спаборніцтвы паміж камандамі студэнтаў і выкладчыкаў "Што? Дзе? Калі?" і інш. Выкладчыкі дапамагаюць студэнтам цікава арганізаваць свой вольны час як ва універсітэце, так і ў інтэрнаце.

Прыемна бачыць нашых студэнтаў і выкладчыкаў не толькі ў аўдыторыі, але і на сцэне. І галоўнае — гэта адносіны людзей да сваіх спраў. А яны ў нас самыя сур'ёзныя. Усе мы думаем аб адным, як падрыхтаваць спецыяліста, пра якога б гаварылі: "Калі ён выпускнік фізічнага факультэта БДПУ, то гэта азначае — добры спецыяліст".

ПАМЯЦЬ

## ВАЙНА ПРАЦЯГВАЕЦЦА...

**Набліжаецца 50-годдзе Вялікай Перамогі над фашысцкімі захопнікамі. У народзе прынята лічыць, што вайна не закончана да той пары, пакуль не пахаваны яе апошні салдат. Адшукаць безымянных салдат вайны, пахаваць іх па хрысціянскім звычаі, аддаць ім апошнія ўшанаванні — наш абавязак перад загінуўшымі ў баях і іх родзічамі, усімі людзьмі.**

Нельга не ўлічваць і таго, што боепрыпасы — рознага роду міны і снарады, гранаты, пакінутыя ў зямлі да сённяшняга дня, тояць у сабе вялікую небяспеку і нават смерць. Навучыць юнакоў і дзяўчат, якія жадаюць займацца пошукавай работай, — справа вельмі важная і патрэбная.

Дзеля гэтага Рэспубліканскі Цэнтр дзіцяча-юнацкага турызму і экскурсіі арганізаваў і правёў на Віцебшчыне семінар-практыкум кіраўнікоў і сяброў пошукавых груп. Сярод удзельнікаў быў і пошукавы атрад з гімназіі №103 Першамайскага раёна Мінска.

Семінар-практыкум праходзіў на базе вайсковай часці. Ваенныя спецыялісты вучылі ўдзельнікаў захаванню правілаў бяспекі пры правядзенні раскопак на месцы былых бітваў, дэталёва пазнаёмілі з тыпамі і ўласцівасцямі выбуханебяспечных прадметаў, прыборамі, якія дазваляюць вызначаць наяўнасць такіх прадметаў у зямлі. Праводзіліся таксама заняткі па арыентаванні на мясцовасці, хаджэнні па азімуце.

Мы прымалі непасрэдны ўдзел у раскопках у месцах былых баёў каля возера Ласвіда.

Былі арганізаваны конкурсы на кемлівасць, знаходлівасць, лепшае выкананне песень на ваенна-патрыятычную тэматыку, праводзіліся спартыўныя спаборніцтвы.

На семінары мы набылі некаторыя навыкі пошукавай работы, пазнаёміліся з равеснікамі з іншых рэгіёнаў краіны, абмяняліся не толькі вопытам, але і адрасамі.

Маем намер і надалей займацца гэтай цяжкай і высакароднай справай — тысячы ж імёнаў нашых воінаў да гэтага часу застаюцца невядомымі.

Аляксандр КАРЗЮК, кіраўнік гісторыка-краязнаўчага гуртка Мінскага гарадскога цэнтра дзіцяча-юнацкага турызму і экскурсій.

## МЫ — БЕЛАРУСЫ




РАСТУЦЬ ПАТРЫЁТЫ

# ПОЛЫМЯ, ЯКОЕ РАЗГАРАЕЦЦА

Усё новае ў нашым жыцці ўспрымаецца часта з насцярожанасцю, нават варожа. А вось вучням і настаўнікам 4-х класаў Смаргонскай першай школы прадмет "Беларусь — мая Радзіма" адразу прыйшоўся даспадобы, стаў шырокім полем дзейнасці для вывучэння гісторыі Бацькаўшчыны і свайго Смаргонскага краю.

Адразу ж было праведзена некалькі кансультацый і пасяджэнне метадычнага аб'яднання для ўсіх настаўнікаў 4-х класаў школ Смаргоні, а пасля і раёна. Асабліва патрэбна была кансультацыя па раздзеле I "Наш край Смаргонскі" — 11 урокаў і ўрок абагульнення. Пад эгідай гісторыка-краязнаўчага клуба "Белая Русь" былі распрацаваны цэлыя раздзелы курса і метадычныя парады. Удзел у правядзенні ўрокаў прымалі і вучні — сябры клуба Дзіма Пацэвіч, Валодзя Болтач з 10 "Б" класа. Урокі, якія адбыліся, дзеці будуць доўга памятаць, таму што на іх ажывала гісторыя малой радзімы, бо праз гульні, легенды аб родным краі, вершы, экскурсіі дзеці акунаіся ў яго мінуўшчыну. Вучні змаглі правесці падарожжа і ў Смаргонскую "мядзведжую акадэмію", і на бараначную мануфактуру-пякарню, у ганчарны крэўскі цэх і Крэўскі замак, да сцен кальвінскага збору XVII ст. і паблукаць па старажытных вулачках Смаргоні: Крэўскай, Віленскай, Нямецкай, Слабодскай, Батарэйнай, Скопінскай, Вакзальнай і інш. Пабывалі яны ля магілы А.С.Іванова, воіна-афганца, земляка з в.Суцькава Пеці Балыша, чыё імя носіць адна з вуліц горада, ля французскіх узгоркаў, дзе працавала вышэйшая школа — "Мядзведжая акадэмія" — промысел лавіць і дрэсіраваць мядзведзяў. Да правядзення экскурсіі дзеці ўжо мелі дамашняе заданне: першае — падрыхтаваць малюнкі да 50-годдзя Вялікай Перамогі; другое — па апорных словах напісаць сачыненне пра смаргонскі край; трэцяе — падрыхтаваць вершы і песні пра Беларусь і Смаргоншчыну.

І вось наступіў святочны дзень — ім стаў заключны абагульняючы ўрок па першым раздзеле. Мы рашылі правесці яго як свята "Пасвячэнне ў гісторыю Бацькаўшчыны". А што гэта было сапраўднае свята для дзяцей, даказала яго праграма. Клас ператвораны ў святочную залу, на дошцы — эпіграф пра Беларусь, малюнкі дзяцей да 50-годдзя Вялікай Перамогі, карта свету і карта Беларусі, Смаргонскага раёна, на стале — кніжная выстава літаратуры пра Беларусь і Гродзеншчыну, Смаргоншчыну. Цэнтральнае месца адведзена дзяржаўным сімвалам: гербу, сцягу і падручніку па гісторыі Бацькаўшчыны ў прыгожым стужкавым абрамленні, тут жа — свяча Ведаў.

Мы падрыхтавалі, з дапамогай старшакласнікаўшэфаў памятныя знакі для пасвячэння.І вось пасля конкурсаў, заданняў, віктарыны, "Поля цудаў" і падвядзення вынікаў наступіў самы адказны момант. Капітаны каманд чацвёртых паралельных класаў (гэта і выдатнікі вучобы) атрымалі права разрэзаць стужку да кнігі Ведаў — да нашай гісторыі Беларусі і запаліць свечку — Полымя Ведаў. І трэба было бачыць, як у гэты момант усе дзеці і бацькі ўсталі і, затаіўшы дыханне, пасвячаліся ў навуку, а Полымя Ведаў было пранесена два разы па крузе.

Пасля гэтага дзецям уручылі нагрудныя знакі, і ўсе яны разам праспявалі пад акардэон яшчэ адну песню — "Беларусь".

Па тварах дзяцей, па іх актыўнасці, настроі, у інтэрв'ю з бацькамі і дзецьмі адчувалася, што свята атрымалася на славу. Полымя Ведаў пра Бацькаўшчыну разгараецца, а мы, настаўнікі, рады за тое, што ў незалежнай Беларусі растуць патрыёты, якія любяць свой родны край, Радзіму, матчыну мову і будуць лічыць сябе гаспадарамі, а не чужынцамі, гасцямі, як у вершы Ларысы Геніюш:

Не хачу быць дома эмігрантам. Я тут — гаспадыня, а не госць. Гаварыць не дзікім эсперанта, Калі мова матчыная ёсць.

Такім чынам, складаны матэрыял, пробны падручнік у творчай справе ажывае, а дзіцячыя душы нам раскрываюцца даверліва. І ажывае гісторыя. А для настаўніка няма большай радасці, як радасць за поспехі дзяцей.

**Расціслаў ШЧАСНЫ,**
**настаўнік гісторыі і грамадазнаўства, кіраўнік клуба "Белая Русь" сярэдняй школы №1 Смаргоні, кандыдат педагагічных навук.**
**Люцыя МАРУКЕВІЧ, настаўніца 4 "Б" класа сярэдняй школы №1 Смаргоні.**

# ІСЦІ РАЗАМ. І Ў АДНЫМ НАКІРУНКУ

## НАТАТКІ З НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ПА ГІСТАРЫЧНЫМ КРАЯЗНАЎСТВЕ

У лістападзе 1924 года ў Мінску адбылася Першая Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя. Яна арганізацыйна аформіла ўтварэнне Цэнтральнага бюро краязнаўства, прыняла рашэнне аб выданні часопіса "Наш край", праграму, у якой сярод найважнейшых задач беларускіх краязнаўцаў абвясціла вывучэнне гісторыі Бацькаўшчыны. Прадаўжаючы багатыя традыцыі сваіх дарэвалюцыйных папярэднікаў (а сярод іх былі такія знакамітыя асобы, як З.Даленга-Хадакоўскі, Т.Нарбут, К. і Я.Тышкевічы, А.Сапуноў, П.Шпілеўскі, А.Кіркор, А.Ельскі, Я.Завіша, М.Без-Карніловіч, С.Куторга і многія іншыя), беларускія краязнаўцы шырока разгарнулі працу па гістарычнай адукацыі насельніцтва. Іх дзейнасць у поўнай меры адпавядала тагачаснай дзяржаўнай палітыцы беларусізацыі, адраджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

На жаль, гэта вельмі патрэбная па тым часе работа не атрымала працягу. Больш таго, у рэчышчы разгорнутай напрыканцы 20-х гадоў барацьбы з "нацдэмаўшчынай" яна была абвешчана шкоднай. Ужо ў 1930 годзе была праведзена Трэцяя Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя, якая фактычна згарнула краязнаўчую дзейнасць на Беларусі. Праз два гады была прынята пастанова СНК БССР "Аб мерапрыемствах па разгортванню краязнаўчага руху", якая прадугледжвала падпарадкаванне ўсёй краязнаўчай работы "планам сацыялістычнага будаўніцтва". Гэты дакумент ставіў крыж на масавым вывучэнні дарэвалюцыйнай гісторыі і зводзіў гэту навуку да дагматычнага засвавення "ісцін", выкладзеных у "Кратком курсе истории ВКП(б)". Яшчэ ў 1930 годзе быў закрыты часопіс "Наш край". Замест яго да 1933 года выходзіць часопіс "Савецкая краіна". Гэты "спадкаемца" папулярнага краязнаўчага выдання фактычна разграміў краязнаўчы рух на Беларусі, які напярэдадні гэтага разгрому складаў каля 250 арганізацый, што аб'ядноўвалі амаль 10 тысяч руплівцаў на ніве вывучэння і папулярызацыі беларускай мінуўшчыны.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны краязнаўства на Беларусі, перажыўшы некалькі усплескаў ажыўлення, у сярэдзіне 60-х гадоў набыло, як справядліва адзначаў вядомы беларускі краязнавец Г.Каханоўскі, "выродлівыя формы, што праявілася ў прыярытэтным становішчы ваенна-патрыятычнай тэматыкі, у прапагандзе сумніцельных поспехаў у развіцці народнай гаспадаркі".

Перыяд заняпаду скончыўся толькі праз 20 гадоў, калі ў 1987 годзе пры Беларускім аддзяленні Савецкага фонду культуры распачала дзейнасць Краязнаўчая камісія. Урэшце рэшт 27 снежня 1987 года на з'ездзе краязнаўцаў рэспублікі яна была пераўтворана ў Беларускае краязнаўчае таварыства.

Наўрад ці мог хто-небудзь з тагачасных гісторыкаў і краязнаўцаў дапусціць крамольнуую (нават па тым перабудовачным часе) думку, што роўна праз чатыры гады ў Белавежскай пушчы будзе вырашаны лёс СССР, і Беларусь, стаўшы незалежнай дзяржавай, атрымае яшчэ адзін, можа, апошні, шанс на адраджэнне, барацьбе за якую многія і многія тысячы свядомых беларусаў, у тым ліку і краязнаўцаў, аддалі столькі намаганняў...

Такі даволі падрабязны экскурс у гісторыю беларускага краязнаўства, я лічу, неабходны. Па-першае, таму, што імпрэза ў Гродне 27—28 кастрычніка адбылася праз 70 гадоў пасля той лістападаўскай канферэнцыі, што дала пачатак арганізаванаму беларускаму краязнаўству.

Па-другое, хацелася падкрэсліць, які складаны шлях яно прайшло ў сваім развіцці. І галоўнае, адзначыць важную ролю краязнаўства ў адраджэнні гістарычнай самасвядомасці мільёнаў нашых суайчыннікаў, якія сёння, як і 70 гадоў таму, пачынаюць далучацца (у большасці сваёй упершыню) да слаўнай і драматычнай мінуўшчыны роднага краю. Навукова-метадычная канферэнцыя "Гістарычнае краязнаўства — дзейсны фактар інтэнсіфікацыі навучальнага працэсу ў школе і ВНУ", якая працавала ў Гродне напрыканцы кастрычніка, нягледзячы на, здавалася б, залішне "сухую" сваю тэму, падаецца мне (менавіта ў гэтым ракурсе) падзеяй неардынарнай. Па-першае, далёка не кожны дзень збіраюцца разам выкладчыкі ВНУ, школьныя настаўнікі, архівісты, музейныя работнікі (у шырокім сэнсе слова — краязнаўцы) з розных куткоў нашай краіны, каб абмеркаваць свае праблемы. Па-другое, канферэнцыя мела за мэту ўдасканаленне гістарычнага выхавання школьнай і студэнцкай моладзі, нашага будучага, тых, хто праз колькі часу будзе вызначаць шлях, па якім пойдзе наша грамадства. З гэтага пункту гледжання гістарычнае краязнаўства пачынае апошнім часам адыгрываць усё большую ролю як у вышэйшай, так і ў агульнаадукацыйнай школе. Як падкрэсліў у сваім дакладзе на пленарным пасяджэнні канферэнцыі намеснік старшыні яе аргкамітэта, загадчык кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, кандыдат гістарычных навук І.Крэнь, "гэта звязана ў першую чаргу з існаваннем суверэннай Рэспублікі Беларусь, стварэннем яе навуковай гісторыі, з распрацоўкай нацыянальнай канцэпцыі гістарычнай адукацыі для агульнаадукацыйнай і вышэйшай школы, забеспячэннем гістарычных дысцыплін, у першую чаргу па айчыннай гісторыі, адпаведнымі падручнікамі, навучальнымі дапаможнікамі, хрэстаматыямі, зборнікамі дакументаў, пазбаўленымі ідэалагічнага прэсу, дэпартызаваных".

З даклада І.Крэня вынікае, што Гродна і Гродзеншчына сталі рэгіёнамі, дзе гісторыка-краязнаўчая праца вядзецца актыўна і грунтоўна. Гэта пацвярджае не толькі правядзенне ў Гродне згаданай навукова-метадычнай канферэнцыі, але і той факт, што за пяць апошніх гадоў тут праведзена, акрамя Навагрудскіх чытанняў, прысвечаных Адаму Міцкевічу, шэсць гісторыка-краязнаўчых канферэнцый: дзве — у абласным цэнтры, а таксама ў Воранаве, Лідзе, Ашмянах, Смаргоні (рыхтуецца такое ж мерапрыемтсва ў Шчучыне).

Аб выхаваўчай функцыі краязнаўства, як галоўнай з пункту гледжання грамадскай карыснасці, гаварыў на канферэнцыі старшыня яе аргкамітэта, першы прарэктар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, кандыдат гістарычных навук А.Краўцэвіч. "Сакрэт моцнага выхаваўчага ўздзеяння краязнаўства, — падкрэсліў вучоны, — крыецца ў яго эмацыянальным зарадзе. Людзям маладым і немаладым, розным па сацыяльным статусе, па узроўні адукацыі і інтэлекту надзвычай цікава ведаць гісторыю родных мясцін".

Вынікам Гродзенскай канферэнцыі стала не толькі распаўсюджанне вопыту гісторыка-краязнаўчай работы, прыняцце канкрэтных рэкамендацый, скіраваных на яе паляпшэнне. Рэдакцыйная калегія пад кіраўніцтвам І.Крэня падрыхтавала і аператыўна выдала тэзісы канферэнцыі. У зборнік увайшлі каля сямідзесяці дакладаў і паведамленняў беларускіх краязнаўцаў, што прынялі ўдзел у канферэнцыі ці даслалі ў Гродна свае працы.

Заканчваючы аповяд аб Гродзенскай навукова-метадычнай канферэнцыі, хацелася б звярнуць увагу на адзін факт, які выклікае па меншай меры здзіўленне. Канферэнцыю, акрамя мясцовага універсітэта і яго кафедры гісторыі Беларусі, арганізавалі і правялі Міністэрства адукацыі і навукі, Рэспубліканскі савет Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Гродзенскі абласны савет Педагагічнага таварыства Рэспублікі Беларусь. Але многія ўдзельнікі канферэнцыі выказалі непаразуменне наконт таго, чаму ўбаку ад гэтага важнага мерапрыемства аказалася Беларускае краязнаўчае таварыства. Больш таго, было заўважана, што апошнім часам назіраецца недарэчны раскол паміж БКТ (дакладней, яго кіраўніцтвам) і навукоўцамі-гісторыкамі.

Заўвага слушная... Раскол гэты (калі ён на самай справе ёсць) тым больш недарэчны і нават небяспечны, калі ўлічыць, як цяжка ідзе на Беларусі працэс адраджэння гістарычнай самасвядомасці народа, як многа перашкод на гэтым шляху, як многа людзей (у тым ліку і на вялікіх дзяржаўных пасадах) хацелі б спыніць гэты працэс і нават павярнуць яго назад, да тых сумна вядомых часоў, калі краязнаўцы (ды і не толькі яны) аб'яўляліся "ворагамі народа" і падвяргаліся рэпрэсіям.

Наўрад ці трэба агітаваць (усё ж трывожна!) за тое, што ў гэтай хісткай сітуацыі і грамадскім арганізацыям, і навуковым установам патрэбна аб'яднанне намаганняў, а не сваркі і неканструктыўныя спрэчкі наконт таго, хто больш зрабіў для справы нацыянальнага адраджэння. Ісці трэба разам і ў адным накірунку.

**Святаслаў АСІНОЎСКІ,**
**намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Беларуская Мінуўшчына", удзельнік канферэнцыі.**

# СЕМЕЖАВА

## ГІСТАРЫЧНЫ НАРЫС

**У лістападзе 1920 г. у Семежаве размяшчаўся штаб антыбальшавіцкага паўстання, якое потым назавуць Слуцкім паўстаннем, альбо Слуцкім збройным чынам. Беларускае супраціўленне гвалтаўнікамі з Усходу было жорстка задушана. Рэпрэсіі працягваліся гадамі. У 1935-м семежаўцаў цэлымі сем'ямі вывозілі ў Архангельскую вобласць. Пакінутыя хаты займалі калгасныя актывісты. Высяленцы, якія перажылі сталінскі тэрор і вярнуліся на Бацькаўшчыну, два гады назад маглі быць сведкамі памятнай акцыі, калі ў іхным мястэчку быў пастаўлены крыж у гонар палеглых за вольную Беларусь.**

**Пры камуністычным рэжыме памяць пра паўстанцаў вытраўлялася ў семежаўцах з пакалення ў пакаленне. Аднак і ў тыя часы былі людзі, якія збіралі і захоўвалі факты беларускай гісторыі. Адзін з іх — Мікалай Лаўрэнавіч Аляшкевіч, былы настаўнік Семежаўскай сярэдняй школы.**

**Гістарычны нарыс м.Семежава, напісаны ім яшчэ ў гады настаўніцтва, можна з поспехам выкарыстоўваць і як навучальны матэрыял — на ўроках гісторыі, і як выхаваўчы — у пазакласнай рабоце.**

**С.АДАМОВІЧ.**

Семежава як паселішча ўзнікла дзесьці паміж 1449—1500 гадамі. У суднай грамаце, выдадзенай у 1449 годзе Літоўскім князем Казімірам Слуцкаму князю Сымону Міхайлавічу на яго вотчыну, гэтае мястэчка не згадваецца. Заснавана ж яно каланістамі, якія былі прывезены князем Радзівілам, як указваецца ў слоўніку "Зямель Радзівельскіх", "з мясцін даволі аддаленых".

Святар Семежаўскай царквы Фэлікс Сцяпура ў 1880 годзе ў "Этнаграфічным нарысе мястэчка Семежава" пісаў: "У ведамасці царкоўнай гаворыцца, што царква ў Семежаве была пабудавана ў 1720 годзе князем Радзівілам на месцы старой, але калі прыняць пад увагу саму царкоўную архітэктуру і старадаўнасць некаторых абразоў, то яе пабудову можна аднесці да больш аддаленага часу, да таго ж старыя вяскоўцы расказваюць, што паўтараста гадоў таму назад царква была ўжо капітальна падпарадкавана князямі Радзвіламі". Зыходзячы з гэтага, можна меркаваць, што царкоўны будынак паўстаў у Семежаве яшчэ да 1570 года.

Вядома, што сваяцтва Слуцкіх князёў і Радзівілаў пачынаецца з 1530 года, калі князь Юры Сымонавіч ажаніўся на князёўне Алене Радзівіл, дачцы ваяводы Віленскага і канцлера Міколы Радзівіла.

Памёр Юры Сымонавіч у 1542 годзе, перадаўшы Слуцкае княства свайму старэйшаму сыну Юры Юр'евічу, які перад смерцю ў кастрычніку 1578 г. пакінуў тэстамэнт пра падзел Слуцка-Капыльскага княства паміж сваімі сынамі Юрам, Янам-Сымонам і Аляксандрам Алелькамі, якое было выканана жонкай Юры Юр'евіча Кацярынай Цянчынскай 6 ліпеня 1582 году. У тэстаманце згадваецца і мястэчка Семежава. Пацвярджае гэты факт і дакумент №11 Слуцкага кляштара, у якім гаворыцца: "Аляксандр Алелькавіч атрымлівае: у Слуцку "Востраў" з замкавымі сёламі: Шостакі, Бранавічы, і двор Баслаўцы, і фальварак Грозава. Двары: Старыцу, Свідэмскі, Быстрыцу, Бялевічы, Карупатвінскі двор з мястэчкам Семежаўскім, палац Душава, Вялешына, Ярэмічы, мястэчка Дубайскае і Языль і другую палову маёнткаў Глушкава і Дарашкова і двор Глуск. Прыстань з мястэчкам на Нёмане — Пясочнае — застаецца ў агульным уладанні трох братоў".

Мястэчка Семежава заснавана каланістамі на высокім востраве, пакрытым "дрымучым лесам, з якога пабудавана як царква, так і самое мястэчка". Востраў, акружаны водамі рэк Мажы і Морачы, за якімі ва ўсе бакі рассціламіся балоты і лясы, знаходзіўся на мяжы Слуцкага і Клецкага княстваў.

У летапісах 12 стагоддзя ўпершыню згадваецца пра Слуцкае княства. У "Аповесці мінулых часоў" 1116 года гаворыцца, што менскі князь Глеб уварваўся ва ўладанні князя Уладзіміра Манамаха і "Случеск пожёг". У 1160 годзе Слуцк становіцца сталіцай асобнага княства. У 1326 годзе Слуцкае княства было далучана да ВКЛ. У 1395 г. Вялікі князь Вітаўт перадаў Слуцк Уладзіміру Альгердавічу, які быў выгнаны з Кіева ў 1392 годзе. Пасля смерці апошняга князем стаў яго сын Аляксандр Уладзіміравіч, якога празвалі Алелькам. Неўзабаве ён выехаў у Кіеў, а ў Слуцку пакінуў князем сына Сымона, у Капылі — сына Міхала. Па смерці Аляксандра ў Кіеў пераехаў Сымон, а князем Слуцкім застаўся Міхал, які пракняжыў там да 1481 г. і быў пакараны смерцю за ўдзел у змове супраць князя Казіміра. Казімір не падпарадкаваў сабе Слуцкае княства, як звычайна здаралася з маёмасцю дзяржаўных злачынцаў, а пакінуў яго за ўдавою Міхала і яго сынам Сымонам, які быў князем Слуцкім да 1503 году. Пасля князем Слуцкім стаў сын Юры Сымонавіч, які памёр у 1542 годзе, перадаўшы Слуцк свайму старэйшаму сыну Юры Юр'евічу, чый запавет пра падзел княства Слуцкага паміж сынамі і быў здзейснены яго жонкай Кацярынай Цянчынскай.

У 1617 г., па смерці апошняй прадстаўніцы Алелькавічаў князёўны Соф'і, Слуцка-Капыльскае княства перайшло яе мужу — князю Яну Радзівілу і ўваходзіла ў склад Навагрудскага ваяводства, якое было заснавана ў 1500 г. і да другога падзелу Рэчы Паспалітай было ў яго складзе.

У 1774 годзе маяратны ўладальнік Нясвіжа прускі князь Антоні Радзівіл дамовіўся з такім жа ўладальнікам Клецка князем Лявонам, і Клецкі маярат увайшоў у склад Нясвіжскага, які з моманту далучэння да Расеі быў у складзе Слуцкага павету Менскага намесніцтва, а затым Менскай губерні, якая была ўтворана 3 мая 1795 года.

Набегі крымскіх ханаў Баты-Гірэя і Бурнаса ў пачатку XVI стагоддзя, працяглая паласа войнаў Рускайдзяржавы з Рэччу Паспалітай (з 1632 па 1667 год) прывялі ў глыбокі заняпад гаспадарку на тэрыторыі Беларусі, якому спадарожнічалі катастрафічны голад і эпідэміі, рэзка скарацілася колькасць насельніцтва. Гэта датычыцца і Семежава. Так, у 1622 г. у Семежаве было 195 дымоў, з іх 19 пляцаў пуставала, а ў 1684 г. было толькі 115 дымоў. Яшчэ больш значнае разбурэнне пацярпела Семежава ў час "вялікага шведскага спалення", калі шведы пасля бою каля Клецка 19 красавіка 1706 года, ушчэнт разбіўшы рускія злучаныя атрады "думнага двараніна і ваяводы" Сымона Пратасавіча Няплюева і Міргарадскага палкоўніка Данілы Апостала, параніўшы Няплюева ў левую руку, забіўшы палкоўніка Івана Сака і адзінаццаць рускіх афіцэраў, накіраваліся на Слуцк. Па дарозе шведы зайшлі ў Семежава. Якраз перад вялікаднем большасць жыхароў малілася ў царкве. Усіх, хто быў у ёй, шведы перарэзалі, толькі адна дзяўчына з вуліцы Маставой, параненая ў грудзі, засталася жывой. Кроў з царквы лілася ручаямі па вуліцах у рэкі Морач і Мажу. Шведы хадзілі па хатах і забівалі ўсіх, каго знаходзілі. Людзі, якія не былі ў царкве, і дзеці хаваліся ад шведаў галоўным чынам у плаўнях Морачы і Мажы. Пасля гэтай шведскайразні Семежава доўга не магло акрыяць і мала ўпамінаецца ў гістарычных дакументах. Наколькі спусташальным быў шведскі набег, сведчыць дакумент №492 з "Выпісак кніг градскіх Слонімскіх", у якім архімандрычы служачы Корзан паведамляе архімандрыту аб атрыманні з семежаўцаў сакавіцкага ўзносу за 1740 год у колькасці 27 злотых.

У сувязі з агульным эканамічным уздымам развіцця гаспадаркі ў 60—90 гадах XVIII стагоддзя ў асобных маёнтках заходняй і цэнтральнай Беларусі адзначаецца значнае пашырэнне фальварачнага заворвання за кошт узорвання новых зямель, лясных высечак. У гэты перыяд у Цімкавіцкім графстве арганізуюцца фальваркі Варшаўка з засценкамі Дамянікава і Малінава, што на поўдзень ад Семежава, і фальварак Волка з засценкамі Смалічы і Старына. У гэты ж час Радзівіл арганізуе ў лесе за тры вярсты ад Семежава двор Орлік з засценкам Выгода, будуе ў Семежаве два вадзяныя млыны: адзін на Морачы і адзін на Мажы, пры якіх былі цэхі часання воўны, валкі сукна і мукамольныя. Гэтыя млыны трымалі арандатары-яўрэі Пекеры, арэнда перадавалася ў спадчыну.

У студзені 1793 года, па другім раздзеле Рэчы Паспалітай Расеяй і Прусіяй, Семежава і ўсе навакольныя вёскі былі далучаны да Расеі і 3 мая 1795 году ўвайшлі ў Менскую губерню.

З гэтага моманту ў Семежаве з'явіліся салдаты рускай арміі, для якіх семежаўцы пабудавалі манеж. Кармілі іх местачкоўцы па чарзе. У задачу салдат уваходзіў набор у рэкруты. У "Чыншовых ведамасцях мястэчка Цімкавічы з XVII стагоддзя па 1919 год" ёсць квітанцыя ад 12 снежня 1809 года аб наборы ў рэкруты з Семежава: "Язэп Дзям'янаў Серада — 23 гадоў, Цімох Паўлюкоў Балванец — 20 гадоў, Янка Сцяпанаў Трыпута — 22 гадоў, Хведар Мікалаеў Серада — 29 гадоў, Мацей Сцяпанаў Ждановіч — 27 гадоў, Лявон Міхайлаў Бокша — 26 гадоў". Падрабязнае апісанне Семежава ёсць у "Радзівілаўскіх інвентарах" за 1834 год, з якога мы даведваемся, што ў Семежаве двароў — 291, мужчын — 602, жанчын — 669, уплочана чыншу — 983 рублі 53,5 капейкі, уплочана на ўтрыманне лазарэта 91 рубель і 52,25 капейкі, адпрацавана 2976 дзён і вывезена 432 брусы лесу.

У гэты час засценак Малінава налічваў 6 двароў, у якіх было мужчын 23, жанчын 22, у Смолічах 13 двароў з 45 мужчынамі і 43 жанчынамі. У Старыне былі 22 двары з 91 мужчынам і 89 жанчынамі. Засценак Выгода меў 8 двароў. У Орліку быў дом, склеп, стайня, абора, свіран, пякарня. У гэтым жа годзе вёска Жыліхава мела 72 двары з 234 мужчынамі і 216 жанчынамі, а Бучаціна мела 87 двароў, у якіх жыло 305 мужчын і 297 жанчын.

У інвентарным вопісе вёсак фальварка Цімкавічы за 1846 год указваецца, што ў Семежаве было 279 двароў з 663 мужчынамі і 711 жанчынамі. З гэтых двароў брукавых — 42 двары, яўрэйскіх — 9, вольных — 10, акладовых — 218. У гэтым дакуменце ўказваецца, колькі двароў на кожнай вуліцы, і пералічваюцца ўсе члены кожнага двара. Так, указана, што на вуліцы Лявонаўскай — 19 двароў, Дамбровай — 7 двароў, Валянтынаўскай — 24 двары, з іх 14 двароў брукаваных, на Маставой — 33 двары, на Рынку — 18 двароў, на Капыльскай — 67 двароў, на Новай — 73 двары, на Слуцкай — 22 двары. Гэтымі дварамі ўплочана чыншу 990 рублёў 92,5 капейкі і на ўтрыманне лазарэта 90 рублёў 48 капеек.

У 1859 годзе афіцэры генеральнага штаба Расеі паводле распараджэння Міністэрства ўнутраных спраў складалі спісы населеных месцаў імперыі. У гэтых спісах Семежава названа "Пасадам", зыходзячы, вядома, з гісторыі засялення. Пасад — гэта паселічша, якое толькі назвай адрозніваецца ад беспавятовага горада, яно заселена па чыйёйсьці волі. Такіх пасадаў у Слуцкім павеце было тры: Семежава — 240 двароў, Пагост — 46 двароў, Трайчаны — 15 двароў. У гэты час Капыль меў 257 двароў, Цімкавічы — 209 двароў, Грозава — 54 двары, Бабоўня — 15 двароў.

У гэтых 240 дварах пражывала 996 душ семежаўцаў. У Падмажжы ў гэты час было 111 двароў, у якіх жылі 282 мужчыны і 291 жанчына, з іх беларусаў — 569 чалавек, яўрэяў — 4.

У час адмены прыгоннага права ў 1861 годзе ў Семежаве было выдзелена 222 надзелы па 12 дзесяцін кожны, або па 13 гектараў, бо дзесяціна — гэта 10.930 квадратных метраў, значыць усёй зямлі было 2664 дзесяціны, або 2475 гектараў. У Падмажжы было выдзелена 22 надзелы. Акрамя гэтага, быў пакінуты адрэз зямлі там, дзе цяпер вуліца Выган, якім больш багатыя семежаўцы карысталіся за плату.

Пасля адмены прыгоннага права барацьба паміж сялянамі, з аднаго боку, памешчыкамі і царскімі ўладамі — з другога разгортваецца каля пытання аб прыняцці статутных грамат. Так, міравы пасрэднік 2-га ўчастка Цікавы ў водгуку ад 24 красавіка 1862 г. за №80 данёс, што "Кіевіцкі валасны старшына Мікалай Міхайлаў Пілат за падбухторванне валасці да непадпарадкавання законам і начальству пры ўвядзенні статутнай граматы ў маёнтку Філіпавічах аддадзены пад суд з адхіленнем ад пасады". 11 ліпеня 1862 г. пастановай Слуцкага павятовага міравога з'езда стараста Кіевіцкай валасці быў зняты.

Указам цара 25 чэрвеня 1840 г. на Беларусь было распаўсюджана дзеянне агульных законаў Расейскай імперыі. Згодна з гэтым указам Семежава ў 1848 г. было перададзена панам Магільніцкім, якім яно належала да 1863 года.

22 сакавіка 1863 г. цар перадаў сенату ўказ "Аб канфіскацыі маёмасці людзей за ўдзел у польскім паўстанні", г.зн. за ўдзел у вызваленчым паўстанні, на чале якога стаяў Кастусь Каліноўскі.

Напярэдадні 21 сакавіка 1864 г. палкоўнік Лосеў дакладваў шэфу жандараў Даўгарукаву пра выкрыццё паўстанцкіх арганізацый у Менскай і Віленскай губернях. У склад рэвалюцыйнага камітэта, паводле данясення, уваходзілі па Слуцкім павеце — настаўнік Міладоўскі і памешчык Магільніцкі. 28 маёнткаў ўдзельнікаў паўстання было секвестравана.

Пасля секвестрацыі Магільніцкіх Семежава, Кіявічы і Філіпавічы былі перададзены правадзейнаму стацкаму радцу Клімаву. Наконт гэтага ёсць яшчэ адзін дакумент. У 9-м томе "Апісання зямлі Расейскай" С.Цяньшаньскага ўказваецца, што Магільніцкія страцілі Семежава, прайграўшыся ў карты. Гэта было зроблена для таго, каб кнігу прапусціла цэнзура.

Клімаў карыстаўся вялікім аўтарытэтам у рускіх цароў, часта бываў за граніцай, валодаў 1447 дзесяцінамі зямлі (1577 гектараў). Меў чатыры фальваркі: Філіпавічы, Новы Двор, Кіявічы і Альховак (Альхоўка). У Кіявічах і Альхоўцы было трохпольнае земляробства, у Філіпавічах і Новым Двары — дзесяціпольнае з травасеяннем. Гаспадарка Клімава ў 1877 г. мела 160 галоў буйной рагатай жывёлы і 50 коней. Каровы былі завезены з паўднёвабаварскага горада Альгаў ў 1875 г. і былі ў тры разы больш прадуктыўнымі за мясцовыя пароды. Гадавая зарплата работнікаў складала 50—60 рублёў. За летні дзень работы мужчынам плацілі па 20 к., а жанчынам — па 15. Даярка за кармленне і даенне 12 кароў атрымлівала 2 р. 50 к. у месяц, г.зн. 30 рублёў у год.

Пры царскім двары быў праект на будаўніцтва царквы ў Кіеве коштам 40 тысяч рублёў. Клімаў у праекце да слова Кіеў дабавіў канчатак "ічы", і атрымалася слова Кіевічы (правільна — Кіявічы). За адпушчаныя грошы былі пабудаваны Кіявіцкая мураваная царква (цяпер аднаўляецца), двухпавярховы палац у Філіпавічах, гаспадарчыя пабудовы, бровар.

У 1904 годзе Клімаў, адчуваючы набліжэнне рэвалюцыі, распрадаў свае землі і паехаў у Пецярбург.

У 1920 г. палякі, адступаючы, спалілі палац Клімава, застаўся толькі адзін мураваны будынак, у якім да 1974 г. была Філіпавіцкая пачатковая школа.

Пасля адмены прыгоннага права Семежава пачало бурна расці. Так, у 1886 г. яно мела ўжо 388 двароў і 1668 душ, з іх 803 мужчыны і 865 жанчын.

Здаўна ў Семежаве існавала таварыства жабракоў пад назвай "Жабрацкі цэх". У яго ўваходзілі людзі з фізічнымі недахопамі (калекі). І не толькі з Семежава, але і з навакольных вёсак і мястэчак. У таварыстве жабракі вучыліся за плату, памер якой вагаўся ад 60 капеек да васьмі рублёў. Жабракі мелі сваю жабрацкую мову, паводле якой Семежава называлася Лухмінск, Цімкавічы — Звеняровічы, Капыль — Канцынск, Слуцк — Бардавуск, Клецк — Крамецск, Лешня — Крэмніца, Бучаціна — Біштурава.

У абавязкі жабракоў уваходзіла абслугоўванне Семежаўскай царквы. Пасля адмены прыгоннага права "жабрацкі цэх" заняпаў.

Акрамя таго, у Семежаве дзейнічалі цэх краўцоў, у якім працавалі толькі семежаўцы, і гарбарны цэх, у якім працавалі толькі яўрэі (выраблялі аўчыны для кажухоў).

У 1908 г. арандатар Радзівілаўскага вадзянога млына на Мажы Пекер Шмуйлавіч Мотэль пабудаваў побач з вадзяным млынам паравы. Дах вадзянога млына быў вельмі стары і ў маі 1910 г. загарэўся ад трубы паравога млына. Згарэлі абедзве пабудовы. Калі ваду з вадасховішча на Мажы спусцілі, млын на Морачы таксама пачаў бяздзейнічаць. Тады Пекер Мотэль прывёз з Англіі вялікую паравую машыну і пабудаваў за 1911—1912 гады вялікі паравы млын з мукамольным, пытлявальным, часальным і сукнавальным цэхамі паміж вуліцай Капыльскай і Падмажжам. Адначасова яўрэй Блох Меер (па мянушцы Сахор) пабудаваў на Зарэчнай вуліцы другі паравы млын.

У дргой палове XIX ст. багатыя семежаўцы пачалі будаваць ветраныя млыны. Усяго да 1917 г. было пабудавана чатырнаццаць такіх млыноў. Усе яны працавалі аж да прыходу бальшавікоў.

З канца XIX стагоддзя і да пачатку першай сусветнай вайны насельніцтва Семежава хутка расло, выдзяляліся новыя двары. У 1914 г. на тэрыторыі цяперашняга Семежава было 518 двароў, у якіх пражывала 2818 чалавек, з іх 1412 мужчын, 1406 жанчын. З усяго насельніцтва беларусаў было 2648 чалавек і 170 яўрэяў.

Жылі семежаўцы ў далёкім мінулым у курных хатах з вельмі маленькімі вокнамі, якія зацягваліся льняным палатном, змочаным у алеі, або высушаным свіным мачавым пузыром. Пасярод хаты стаяў агмень (жароўня), потым ён быў заменены печчу без коміна. Дым выходзіў праз адчыненыя дзверы, якія называлі называныя"скрыпутамі". Курныя хаты Семежава трывалі

(Працяг на 6-й стар.)

## ПОСТАЦІ БЕЛАРУСІ

# СПІРЫДОН СОБАЛЬ

**Гонар першага ўжывання слова "буквар" на тытульным лісце... належыць Собалю: "Букваром" называецца яго куцеінская кніга 1631 года. Нарэшце, у яго магілёўскім выданні 1636 года гэтае слова ўжываецца незалежна, як абазначэнне элементарнага падручніка для дзяцей: "Букварь языка славеньска".**

Джон Сіман Габрыель Сіманс

На ўскраіне Оршы (паняцце "ўскраіна" ў дадзеным выпадку, праўда, умоўнае, паколькі горад з кожным годам разрастаецца, пашырае межы), у нейкіх двух-трох кіламетрах ад старажытнага дзядзінца, на левым беразе Дняпра, акружаныя сучаснымі дамамі захаваліся старыя двухпавярховыя будынкі. Выгляд іх не надта прывабны. Неяк змрочна, панура стаяць яны, маўкліва азіраючы наваколле.

Яшчэ гадоў дзесяць назад далёка нямногія аршанцы, не кажучы пра гасцей горада, ведалі, што пабудовы гэтыя — колішні Аршанскі Куцеінскі Богаяўленскі манастыр. Ды і адкуль ім ведаць было, калі ўсіх нас абавязкова выхоўвалі заўзятымі атэістамі, а да мінуўшчыны вучылі ставіцца так, быццам нацыянальная гісторыя пачалася толькі ў 1917 годзе. Таму і будынкі былога манастыра выкарыстоўваліся для гаспадарчых патрэб і жылля.

Успомнілі пра гэты унікальны помнік архітэктуры беларускага барока нядаўна. У 1987 годзе ў Куцейна (назва паходзіць ад некалі хуткаплыннай рэчкі Куцеінк)і завітала спецыяльная экспедыцыя археалагаў аб'яднання "Белрэстаўрацыя" і Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Яны і распрацавалі праект аднаўлення манастырскага комплекса, захавання яго для нашчадкаў.

Меры былі прыняты своечасова, бо мікрараён Задняпроўе, на тэрыторыі якога знаходзіцца манастыр, хутка забудоўваецца. Глядзіш — знойдуцца ахвотнікі знесці гэтыя непрывабныя пабудовы. А ў сценах жа манастыра ў сярэдзіне XVII стагоддзя знаходзілася знакамітая Куцеінская друкарня.

Заснавалі ж манастыр у 1623 годзе. А пачатак таму быў пакладзены трыма гадамі раней. У 1620 годзе патрыярх Іерусалімскі Феафан, а ён тады знаходзіўся ў Кіеве, даў аршанцам грамату, згодна якой ім дазвалялася заснаваць праваслаўны мужчынскі манастыр. Наступныя дакументы афармляліся ўжо ў Варшаве. Іх выпісалі на імя мясцовага магната Багдана Стэткевіча-Завірскага, які прытрымліваўся праваслаўнай веры, і яго жонкі Плены Саламарэцкай.

Стэткевіч-Завірскі і ўнёс вялікую суму грошай на ўзвядзенне манастыра. Не абышлося аднак і без сродкаў, сабраных самімі аршанцамі, а таксама магілёўцамі, якія належалі да праваслаўных брацтваў. А месца для пабудовы выбралі пасярод лесу, на вялікай маляўнічай паляне, атуленай вакол векавымі дрэвамі. Акурат там зліваліся Дняпро і Куцеінка.

Усё рабілася так, каб далей ад злога вока. Асцерагацца ж было чаму. Пашыралася каталіцтва. Паборнікаў праваслаўя праследавалі. Таму іераманах Іоіль Труцэвіч, які па сутнасці кіраваў будаўнічымі работамі, даведаўшыся пра дазвол Феафана, нямала пахадзіў па аршанскіх ваколіцах, пакуль выбар спыніў менавіта на гэтым месцы.

Дарэчы, пра пабудову манастыра ў Куцеіна захавалася нямала звестак. Знайшла гэтая падзея адлюстраванне і ў "Жытиях" патрыярха Нікана, у якіх, у прыватнасці, гаворыцца: "Слышав святейший Патриарх, яко близь славнога града Орши, иже бысть глава и начало общему житью во всей Белой России и в Литве, созданная обитель, или рещи, Лавра велика зело Святого Богоявления Господня, зовома Кутейно, юже воздвиже боголюбивый иеромонах Иоиль; иже бысть Игумен Лавры тоя, и не токмо сию едину, но ины многи совими труды и поты сооружи иночествующих множества собра, и во своей пастве всех имеяй и благочестие во всей Белой России утверждаяй и удерживаяй во время гонения от развращенных униатов..."

Як вядома, на той час сярод манахаў сустракалася нямала высокаадукаваных людзей. Не выключэннем з'яўлялася і Аршанскае брацтва. Добра разумеў значэнне асветы, кнігі і Іоіль Труцэвіч. Сярод яго паплечнікаў аказалася нямала рэзчыкаў па дрэве, чаканшчыкаў, гравёраў, мастакоў. Відавочней за ўсё І.Труцэвіч і падказаў Б.Стэткевічу-Завірскаму думку аб неабходнасці адкрыцця пры манастыры друкарні. Сам жа Стэткевіч-Завірскі ўжо ведаў цану кнізе, бо ў Кіеве пазнаёміўся з мясцовым друкаром Спірыдонам Собалем.

Собаль быў родам з Магілёва. Год нараджэння яго па сённяшні дзень не ўстаноўлены. Вядома толькі, што бацька Собаля Багдан Ігнатавіч Собаль з'яўляўся магілёўскім бургамістрам, трымаў на гарадскім рынку "полторы крамы". Маці і бабуля таксама нарадзіліся ў гэтым горадзе на Дняпры.

Увогуле, род Собаляў — адзін з самых старадаўніх на беларускай зямлі. Яшчэ Ф.Жудро ў кнізе "История Могилевского братства" (Магілёў-на-Дняпры, 1890) згадвае некаторых знакамітых асоб, якія мелі гэтае прозвішча. Праўда, ступень сваяцтва іх з Собалем не ўстаноўлена, тым не менш... Ігнат Андрэевіч Собаль быў у 1579—1580 гадах бургамістрам віленскім. Згадваюцца таксама Война Собаль, Піліп Андрэевіч Собаль і іншыя. Багдан жа Собаль (відаць, цёзка бацькі друкара) называецца як адзін з "начальников возмущения". Гэта значыць, ён належаў да тых, хто не прызнаваў Іясафата Кунцэвіча і пры набліжэнні таго да Магілёва аказаўся ў шэрагу яго праціўнікаў. Іх аказалася нямала, і Кунцэвіч так і не змог заехаць у горад.

З бунтаўшчыкамі жорстка расправіліся. Найбольш актыўных нават пакаралі смерцю. На праваслаўных пачаліся ганенні.

Адзінае выйсце ім заставалася ў тым, каб шукаць падтрымку ў Кіеве ў мітрапаліта. Таму, відаць, С.Собаль і перабраўся ў Кіеў. З 1624 года ён працаваў настаўнікам у Кіеўскай брацкай школе і ў Кіева-Магілянскай акадэміі. Наладзіў кантакты з мітрапалітам Іёвам Барэцкім, атрымліваў усебаковую падтрымку ад яго.

У Кіеве працавала ўжо некалькі друкарняў, сярод іх і прыватная Цімафея Вярбіцкага. Сам ён яшчэ ў 1623 годзе быў работнікам Лаўраўскай друкарні, але захацеў самастойнасці. Ці то Вярбіцкі прадаў па нейкіх прычынах сваю друкарню Собалю, які на гэты час выказваў жаданне займацца выдавецкай дзейнасцю, ці дапамог яму некаторымі матэрыяламі (апошняе больш праўдападобна, бо які друкар хутка развітваецца са сваім дзецішчам), але ўжо ў 1628 годзе С.Собаль меў у Кіеве ўласную друкарню.

У тым жа годзе выйшлі і яго першыя кнігі "Ліманар", "Мінея агульная", першае выданне "Актаіха". Два наступныя выданні "Актаіха" пазначаны ўжо 1929 годам.

Знаёмства з гэтымі выданнямі пераконвае, што Собаль клапаціўся пра асвету народа, дбаў аб духоўным і разумовым развіцці люду. А паколькі многія праваслаўныя цэрквы закрываліся, змяшчаў тэксты малітваў, каб чалавек, які возьме кнігу ў рукі, мог паразмаўляць з Богам сам-насам. Часам даваліся ў кнігах і канкрэтныя парады. Напрыклад, у "Актаіху" 1629 года. С.Собаль зазначае, што раіць "сию книжицу" набыць для таго, каб ведаць, калі прамаўляць пэўную малітву.

Ставіў С.Собаль перад сабой і чыста асветніцкія мэты, хоць яны, безумоўна, на першы план не ставіліся, а падаваліся, так сказаць, у кантэксце іншых, не менш важных. Гэта яскрава бачна на прыкладзе "Ліманара".

"Ліманар" ці інакш кажучы "Луг духоўны" — помнік візантыйскай літаратуры VII стагоддзя. Аўтарам яго з'яўляецца Іаан Мосх (вядомы толькі год яго смерці: 619). "Ліманар" даўно меў хаджэнне на Русі ў рукапісных варыянтах. У Парыжы ж выдаваўся на грэчаскай і лацінскай мовах.

Да перакладу "Ліманара" С.Собаль прыступіў яшчэ ў 1624 годзе. Смела ўзяўся за гэтую нялёгкую працу, бо дасканала валодаў старадаўнімі мовамі. Праўда, дакладна аўтарства перакладу "Ліманара" не ўстаноўлена. Упаўне магчыма, што гэта зрабіў сам Собаль, але нельга адмаўляць і таго, што над перакладам працаваў нехта з яго вучняў ці выкладчыкаў той жа Кіеўскай брацкай школы альбо Кіева-Магілянскай акадэміі. Магло стацца і так, што ў Собаля былі памочнікі.

Як вядома, у "Ліманары" ў асноўным падаюцца найбольш значныя эпізоды з жыцця манахаў. Тым самым па-свойму прапагандуецца іх лад жыцця. Але гэтымі гісторыямі змест твора не абмяжоўваецца, Ёсць у "Ліманары" і расказы пра рыбакоў, скамарохаў і нават пра нейкага капітана карабля.

Самае цікавае, што пасля Собаля гэты помнік не выходзіў ні ў Маскве, ні ў Кіеве, ні ў Львове — тагачасных буйных друкарскіх цэнтрах. Ужо гэты факт красамоўна сведчыць на карысць таго, што С.Собаль, які, безумоўна, найперш мусіў выпускаць кнігі найбольш распаўсюджаныя тады, шмат у чым ступаў па цаліку, падбіраючы для выдання кнігі, якія былі яму больш па душы. А для гэтага патрабаваліся сродкі, прытым немалыя.

Выданне кнігі — увогуле справа, што заўсёды патрабуе вялікіх фінансавых затрат. А што ўжо казаць пра сярэдзіну XVII стагоддзя, калі ўся работа вялася ўручную. Шмат намаганняў патрабавалася, каб зрабіць друкарскія дошкі, адліць шрыфты, намаляваць застаўкі, выканаць малюнкі. За ўсё гэта неабходна было плаціць. Таму даводзілася шукаць багатых мецэнатаў. Такім мецэнатам для Собаля і стаў Багдан Стэткевіч-Завірскі — уплывовы беларускі магнат, які ўсяляк падтрымліваў праваслаўных. У розны час ён пабудаваў на сваіх землях некалькі манастыроў.

Калі адбылося гэтае знаёмства, не ўстаноўлена, але ўжо на тытульным лісце "Апостала", выдадзенага ў 1630 годзе, указана: "Коштом и накладом пана Богдана Стеткевича, подкоморого Мстиславского". На зваротным баку яго змешчаны герб роду Стэткевічаў, а таксама прысвячэнне мецэнату. Думаецца, ёсць патрэба прывесці яго цалкам, паколькі гэта адзін з узораў беларускай старажытнай паэзіі:

На герб их милостей панов Стеткевичов Две сердца ся споили, меч их разрывает, Моц старожитных домов през то осведчает, Который варварские гуфы не зровнали. Пойз ри на челм, обачиш як ся потыкали Котвицы — теже веры статечной знаком, Як кгды округ на ветры умоцнен троигаком, А крест церкви похвала, крест — верным оброна, И тот есть Стеткевичов клейнот и корона Прето ж их слава в небо, як стрела взносити И на веки ся будет в людях голосити.

(Тлумачэнні асобных момантаў: 1. — маецца на ўвазе эмблематычны знак герба Стэткевічаў — спалучэнне двух сэрцаў з мячом; 2. — якія не знішчалі варожыя полчышчы; 3. — як карабель у час буры замацаваны якарам).

Акрамя таго, Собаль не прамінуў магчымасці выказаць падзяку свайму пакравіцелю за дапамогу. Больш таго, прасіў, каб той дапамог яму перанесці друкарню ў адзін са сваіх маёнткаў. Апошняя акалічнасць немалаважна. Уладанні Б.Стэткевіча-Завірскага размяшчаліся на Беларусі. Значыць, Собаль жадаў працаваць на роднай зямлі і ў імя Бацькаўшчыны: "же бысь милостевый пан ты и працы моей почтаки обачивши, зрозумети рачил яко снадне можеши в державе своей типографию розширити". Ён быў упэўнены, што па вяртанні на радзіму ён зможа надрукаваць шмат "знаменитших книг".

Таму, калі І.Труцэвіч прапанаваў адкрыць у Куцейна друкарню, Б.Стэткевіч-Завірскі адразу ўспомніў пра Собаля. Той, даведаўшыся пра ўсё, угаворваць сябе не прымусіў, на прапанову вярнуцца на радзіму адразу адказаў згодай.

У 1630 годзе Собаль і прыступіў да выдання ў Куцейна сваіх кніг. Іх выйшла пяць. Першынцам стала "Брашна духоўнае". Але памятным для беларускага кнігадрукавання (ды і для сусветнага таксама) стаў наступны, 1631 год. Тады пабачыў свет "Буквар", які ў многіх каталогах згадваецца не толькі як выданне С.Собаля, а менавіта як куцеінскі "Буквар". Поўная назва яго такая: "Букварь сиречи, начало учения детям, начинающим чтению извыкати". Далей на тытульным лісце ўказана: "В Кутейне изобразися в типографии Спиридона Соболя року 1631".

Да С.Собаля падручнікі пачатковага навучання дзяцей грамаце называліся "Азбукай". Ён жа першым увёў ва ўжытак новае слова, якое неўзабаве стала вельмі папулярным. З 1631 года "Буквар" і пайшоў, як кажуць, у жыццё. Назва настолькі прыжылася, што па сённяшні дзень яна не ўспрымаецца старой, хоць змянілася ўжо не адно пакаленне буквароў.

Адкрываўся "Буквар" "Азбукай языка слвенскаго". А калі канкрэтней, дык падаваўся сам алфавіт з 44 літар, надрукаваных у прамым і зваротным парадку. Відаць, такім нечаканым размяшчэннем літар С.Собаль хацеў лепш развіць зрокавую памяць вучняў, дапамагчы ім хутчэй запомніць прачытанае. Дзве старонкі ў "Буквары" займалі з адной зычнай і галоснай, з дзвюма зычнымі і галоснымі літарамі. Праўда, тут С.Собаль, як кажуць, нічога новага не адкрываў, і да яго прымяняўся падобны прынцып навучання, аб чым сведчаць, у прыватнасці, шмат якія Азбукі. А вось на кожную літару быў прапанаваны вельмі ёмісты матэрыял, што не кожным друкаром рабілася. Ён быў падабраны адпаведна тагачасным уяўленням аб выхаванні дзяцей. Прыводзіліся вытрымкі з Старога і Новага Запаветаў, евангельскія добрадзецелі, малітвы...

"Буквар" з густам праілюстраваны. На тытульным лісце літы арнамент. Ёсць ксілаграфічная застаўка з кветкавым фонам, невялікія ксілаграфічныя ініцыялы ў рамках. Прадуманасцю, выразнасцю кампазіцыі прываблівае выява Маці Боскай з целам Хрыста на каленях.

З'яўленнем "Буквара" быў пакладзены пачатак і так званай Куцеінскай школе гравюры. Выданні С.Собаля (той жа "Буквар", "Малітвы паўсядзённыя", "Часаслоў", "Апостал") — узор афармлення кніг, выдадзеных у гэтай друкарні. Пасля таго як С.Собаль пакінуў Куцейна, выдавецкую справу прадоўжыў І.Труцэвіч. Друкарня ў Куцейна працавала да 1650-х гадоў, калі абсталяванне перавезлі ў Іверскі манастыр пад Ноўгарадам.

Услед паехалі і работнікі друкарні. Сам жа С.Собаль развітаўся з Куцейна значна раней. Праўда, дакладна невядома, у 1633—1634 гадах працаваў ён яшчэ ў самім Куцейна ці ўжо ў Буйнічах пад Магілёвам. Але ў Буйнічах ён, ва ўсякім разе, апынуўся не пазней 1635 года. Менавіта ў гэтым годзе выйшаў "Псалтыр", на тытульным лісце якога значыцца: "Издан типом з друкарни Спиридона Соболя в новозаложеном месте Буйнічах, в маетности его милости пана Богдана Стеткевича, подкоморего мстиславского в лето от создания мира 7143, а от воплощениа бога слова року 1635".

Пра месца выдання некаторых кніг С.Собаля цяжка сказаць і па той прычыне, што на тытульным лісце ён не заўсёды дакладна ўказваў яго. Відаць, баючыся праследаванняў за праваслаўныя погляды, на некаторых кнігах, што выходзілі ў тым Куцейна ці Буйнічах, знарок ставіў выхадныя даныя кіеўскай друкарні. Ды і пераезд з месца на месца не ў апошнюю чаргу абумоўліваўся тым, што С.Собалю хацелася знайсці прыстанішча, дзе б можна было спакойна займацца любімай справай. Таму з Буйнічаў у 1637 годзе і перабраўся ў сам Магілёў, дзе выдаў новы "Буквар" (1636), "Псалтыр" (1637), "Тастамент" (1638) і іншыя кнігі.

Ды і ў Магілёве, не сказаць, каб лёгка працавалася. І па прычынах, зусім не залежачых ад С.Собаля. Справа ў тым, што не існавала поўнага ўзаемаразумення паміж магілёўскім епіскапам Сільвестрам Касым і Магілёўскім брацтвам. Хоць польскі кароль Уладзіслаў IV і выдаў яму 19 сакавіка 1633 года прывілей на права адкрыцця друкарні, у якой выпускалася б вучэбная і іншая літаратура на беларускай, грэчаскай, лацінскай і польскай мовах, уніяты, як толькі маглі, перашкаджалі праваслаўным.

Вяртацца ж у Кіеў ніяк не выпадала. А выйсце неабходна было шукаць. Тады С.Собаль і кінуў свой позірк на Маскву, якая ад Магілёва не так і далёка і дзе, як меркаваў ён, зможа паспяхова прадоўжыць друкарскую і выдавецкую дзейнасць.

У 1637 годзе С.Собаль звязаўся з вядомым маскоўскім друкаром Васілём Бурцавым. Як складваліся іх узаемаадносіны і ўвогуле, як Масква паставілася да жадання С.Собаля знайсці новае прыстанішча, бачна з дакументаў, што захоўваюцца ў Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў.

Збярогся, напрыклад, ліст дарагабужскага ваяводы Я.Грымалы-Крамянеўскага да яго калегі з Вязьмы Ю.Буйносава-Растоўскага ад 17 красавіка 1639 года. Перапіска тычыцца просьбы С.Собаля прапусціць яго ў Маскву. У гэтым лісце, між іншым, гаворыцца: "Спиридон Миронович Соболь печатник книжой места Могилева: едет с книгами благочестивых восточных церквей в землю... царя в Вязьму".

Міронавічам ён, безумоўна, названы памылкова. Ды пакінем па-за ўвагай гэтую апіску. Важна тое, што С.Собаль вёз з сабой не які-небудзь тавар, а кнігі. Тым самым ён рупіўся, каб духоўныя набыткі не ведалі межаў, пашыраліся між народамі, а друкаванае слова паядноўвала іх, бо — у гэтым С.Собаль быў перакананы — яно мела вялікую сілу. Асабліва, калі нясло людзям ідэі дабра, справядлівасці, паслушэнства.

Зыход гэтай паездкі ў многім залежаў ад таго, як прымуць С.Собаля ў Маскве высокапастаўленыя асобы, а значыць яму неабходна было падаць сябе як мага з лепшага боку. Пра што і парупіўся. З іншых дакументаў даведваемся, што "он ректор и надзиратель школ могилевских и киевских, ныне же печатник писаний божественных и слуга... его милости, кир Петра Могилы... митрополита Киевского". У нечым С.Собаль дадумваў тое, чаго не было. Не з'яўляўся ён "рэктарам... школ магілёўскіх і кіеўскіх". Ды і хіба магчыма аднаму чалавеку на працягу невялікага прамежку часу займаць такую адказную пасаду ў некалькіх месцах?!

Па сваім няведанні ён "прыблізіўся" да П.Магілы, пра што лепш было б памаўчаць, таму што ў Маскве ў асобе П.Магілы бачылі перш за ўсё ўніята. Адпаведным чынам ставіліся і да людзей, якія знаходзіліся з ім у прыязных адносінах.

Гэта была не першая паездка Собаля ў Маскву. Ён прызнаецца: наведваўся туды "в прошлом году". Праўда, і тут недакладнасць. Першая паездка ў Маскву адбывалася ўсё ж у тым жа 1637 годзе. І мела для абодвух бакоў, бадай, узаемную карысць. Собаль знайшоў людзей, якім патрэбны былі яго талент, веды, друкарскае майстэрства. А Бурцаў і яго паплечнікі атрымалі некаторы друкарскі рыштунак: "я привез в отчину твою на Москву мелкую печать троих писмен и Василию Бурцову продал и все мастерство тех печатей изъявих".

Гэта значыць, што С.Собаль пераканаў маскоўцаў у зручнасці менавіта гэтых, а не якіх-небудзь іншых шрыфтоў. Акрамя таго, ён хацеў перакладаць кнігі на рускую мову, выкладаць лацінскую, грэчаскую і польскую мову маскоўскай дзятве. Ды ніякага пэўнага адказу на гэтую прапанову не атрымаў, таму і вымушаны быў вярнуцца ні з чым на радзіму.

Цяпер жа спадзяваўся, што другая паездка ў Маскву стане куды больш плённай. Але, на жаль, гэтым разам да Собаля маскоўцы паставіліся з перасцярогай. І прычынай таму з'явіліся сведчанні супраць яго Бурцава, які 21 красавіка 1639 года быў выкліканы ў Пасольскі прыказ, каб пацвердзіць, наколькі ён знаёмы з Собалем і як характарызуе яго як чалавека.

Відаць, падчас той першай паездкі паміж друкарамі ўзніклі нейкія непаразуменні. Хто з іх меў рацыю, а хто не — цяпер высветліць цяжка ды і, бадай, немагчыма. Засталіся наконт гэтага сведчанні аднаго Бурцава, а ці шчыры ён у сваіх абвінавачваннях — невядома.

Свайго знаёмства Бурцаў з Собалем не адмаўляў, але сцвярджаў, быццам той узяў у яго "в кабалу денег 25 рублей, да в закладе в 10 рублей положил 4 книги печатные". Браў грошы, як быццам, "не за так": "А ему было, Соболю, за те деньги и за книги выслать к нему, Василью, из Литвы формы бумажные многих статей".

Калі верыць Бурцаву, Собаль свайго абяцання не выканаў. Таму ён і адзываўся пра яго варожа. Бурцаў папракаў Собаля за службу ў П.Магілы і асабліва за тое, што "приступил к римской вере и ныне де он униат".

Пасля ўсяго гэтага Собалю наўрад ці выпадала разлічваць на разуменне з боку маскоўскіх улад. Так і адбылося. 22 красавіка 1639 года Маскоўскі ўрад прыняў пастанову, згодна якой дазвол на ўезд у Маскву не быў дадзены: "чтоб в ево ученье и в книгах смуты не было... и от нево б, Спиридона, какая ересь не абуявилася". З Вязьмы яго адпусцілі ў Літву. А значыць — на радзіму...

Пра далейшую друкарскую дзейнасць С.Собаля захавалася вельмі мала звестак. Ёсць меркаванні, што ён пабываў у Малдавіі, на Украіне, а пасля пастрыгся ў манахі, узяў імя Сільвестра.

Наконт манаства, праўда, звесткі больш пэўныя. Вядомая даследчыца жыцця і дзейнасці С.Собаля А.Зярнова (масквічка, цяпер нябожчыца) адшукала імя Сільвестра Собаля сярод манахаў Магілёўскага брацтва, якія ўступілі ў яго пасля 1634 года.

Брацтва гэтае таксама займалася друкарскай дзейнасцю. Але ў сярэдзіне XVII стагоддзя ніводнай кнігі не выпусціла. Знойдзены толькі ва Упсале (Швецыя) "Буквар", на вокладцы якога значыцца больш позні час: 1649 год. Па сваім змесце, загалоўку гэтае выданне супадае з "Букваром" С.Собаля, выдадзеным у 1636 годзе. А.Зярнова выказала меркаванне, што, магчыма, і гэты новы "Буквар" выпусціў С.Собаль. Выкарыстаў шрыфты, якія збярог, друкарскія дошкі.

Яна ж сцвярджала, што ў кнігах Магілёўскага магістрата ёсць шэраг запісаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю С.Собаля, датаваных 1636—1647 гадам. Калі верыць ім, ён памёр недзе каля 1647 года.

Тым не менш, у энцыклапедычных даведніках звычайна называецца іншая дата смерці С.Собаля — каля 1645 года. З'явілася яна не выпадкова. Знайшлі два завяшчанні яго, якія выяўлены нядаўна. Адно з іх захоўваецца ў Львове і пацвярджае, што С.Собаль падтрымліваў сувязі з Каменец-Падольскам і Сокалем. Ды і бываў там.

Завяшчанне напісана "понедельником перед праздником св.Лаврентия мученика (7 августа), года 1645 в Каменецком замке". Сярод іншых рэчаў, якія завяшчаў, С.Собаль згадваў 14 кніг, дзве гравіраваныя пласціны, два жалезныя валкі. Хутчэй за ўсё ў Каменец-Падольску ён апынуўся, калі ехаў у Малдавію ці Валахію. А, магчыма, заехаў туды дзеля распаўсюджвання ўласных кніг.

Другое завяшчанне С.Собаля захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Складзена яно 3 лютага таго ж 1645 года. Значыць, яшчэ да паездкі ў Каменец-Падольскі. Гэтае завяшчанне дае ўяўленне аб сям'і друкара. У Собаля было чацвёра сыноў, брат Сямён і сястра. Малодшыя сыны Іван і Лявонцій на той час з'яўляліся непаўналетнімі. Ім бацька завяшчаў "дом с пляцом... на горе Ильинской", а таксама чатыры валокі зямлі, два сенакосы каля Дняпра.

Жыў С.Собаль, як бачым, зусім не бедна. Так, старэйшаму сыну Яўціхію ён пакідаў 1200 польскіх злотых. Сума вялікая! З гэтага ж завяшчання даведваемся, што ці не да самай смерці ён працягваў друкарскую дзейнасць. Нездарма двум з сыноў пакінуў незавершаныя "Апосталы", кожнаму — па 600 адпаведнікаў. 44 лісты таго ж "Апостала" знаходзіліся ў сыноў яго сястры — друкароў Яўфімія і Мацвея Федаровічаў у якасці залогу.

На падставе гэтых завяшчанняў і называецца год смерці С.Собаля прыкладна 1645-ы. Хаця магло стацца і так, што пасля ўладкавання спраў зямных, падзяліўшы ўласную маёмасць, ён мог і не спяшацца на той свет.

Магчыма, далейшыя пошукі даследчыкаў і дадуць нешта больш пэўнае адносна апошніх дзён жыцця таго, хто першым увёў ва ўжытак новую назву першага падручніка для дзяцей. А што гэта і на самой справе было так, перакананы сусветна вядомы даследчык старажытнай кнігі Джон Сіман Габрыель Сіманс.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

## ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ПОГЛЯД

# Ключ ад мінуўшчыны

### БЕЛАРУСЬ — КАЛЫСКА МНОГІХ НАЙВАЖНЕЙШЫХ НАПРАМКАЎ ГІСТОРЫКА-АРХЕАЛАГІЧНЫХ НАВУК. НОВЫ СЯРОД ІХ — АРХЕАЛАГІЧНАЯ МІНЕРАЛОГІЯ

Значэнне мінералаў і іх роля ў гісторыі і матэрыяльнай культуры старажытных народаў з'яўляецца адной з актуальных праблем археалогіі. І калі ў навуковых даследаваннях прагрэс у яе вырашэнні дасягаецца ў сумесных мінерала-археалагічных даследаваннях, то ў навучальным працэсе, на жаль, гэтага пакуль не назіраецца. Дастаткова сказаць, што некаторыя пытанні мінералогіі чытаюцца ў адной-дзвюх уральскіх ВНУ, а ў навучальных планах гістарычных факультэтаў практычна ўсіх іншых ВНУ СНД, у тым ліку і беларускіх, мінералогія як прадмет проста не значыцца. А між тым сімбіёз мінералогіі і археалогіі мае вялікае агульнанавуковае значэнне. Даўно наспела неабходнасць стварэння новага сінтэтычнага накірунку — археалагічнай мінералогіі, прадметам якой з'яўляецца вывучэнне мінералаў і вырабаў з мінералаў з археалагічных помнікаў, устанаўленне ролі мінералаў у жыцці і дзейнасці старажытных народаў.

Перад археолагамі, гісторыкамі і мінеролагамі, якія вывучаюць матэрыялізаваны камень, адкрываецца цэлы комплекс вельмі цікавых праблем, вырашэнне якіх прынясе вялікую карысць як гістарычнай навуцы, так і геалагічнай практыцы. Гэта і праблема крыніц каменя і руд для старажытных вытворчасцяў, вырашыўшы якую, можна прыйсці і да адкрыццяў новых радовішчаў карысных выкапняў, і праблемы тэхналогіі, і праблемы, як вобразна сказаў акадэмік В.П.Юшкін, каменна-мінералагічных сувязяў з іншымі народамі і рэгіёнамі, і назапашванне і эвалюцыя мінералагічных ведаў у гісторыі чалавецтва. Па археалагічных і літаратурных даных прасочваецца, як пастаянна нарастала колькасць уцягваемых у чалавечую дзейнасць мінералаў ад трох—пяці ў палеаліце да некалькіх дзесяткаў у неаліце і больш чым да дзвюх соцень у пачатку цяперашняга стагоддзя.

Археалагічная мінералогія выяўляе строга заканамерныя якасныя змены ўзаемаадносін чалавека і каменя. Калі інтэнсіўнасць выкарыстання і тэхналогія апрацоўкі шэрагу мінералаў няспынна прагрэсіравалі ў гістарычным працэсе (гліняныя мінералы, крэмень, высакародныя металы, будаўнічы камень), то тэхналагічная эвалюцыя некаторых адбывалася праз перыяды рэзкага ўздыму і падзення. Напрыклад, тэхніка паверхневай апрацоўкі каменя, якая дасягнула ў неаліце дасканаласці, прыйшла ў эпоху бронзы ў заняпад. У гэты ж час пачалі зараджацца і развівацца металургічныя і металаапрацоўчыя тэхналогіі, якія здзіўляюць сваёй разнастайнасцю і майстэрствам. Адбываецца карэннае змяненне ў геолага-мінералагічнай арыентацыі старажытнага чалавека: ад каменешукальніцтва да рудаперапрацоўкі, ад самацветаўпрыгожальнай ролі каменя да гандлёва-абменных матэрыяльных сувязяў з іншымі народамі.

Галоўная складанасць гістарычных праблем — гэта слабая "мінералагізацыя" археалагічных даследаванняў. Акрамя атрымання верагоднай інфармацыі аб мінералах з археалагічных аб'ектаў, устанаўлення крыніц каменя і металаў, мінералогія ўносіць свой уклад у развіццё археалагічнай навукі і практыкі, паколькі метады археалогіі і мінералогіі вельмі блізкія ў сваёй ідэйнай аснове.

Курс археалагічнай мінералогіі, які ўключае ў сябе гэтыя і некаторыя іншыя праблемы, чытаецца ў невялікім аб'ёме апошнія тры гады студэнтам першага курса гістарычнага факультэта Брэсцкага педінстытута і ўспрымаецца імі з вялікай цікавасцю. Практычная частка мінерала-археалагічных даследаванняў рэалізуецца праз палявую практыку і напісанне курсавых на другім курсе. Лепшыя курсавыя прадстаўляюцца штогод на конкурс студэнцкіх навуковых работ і публікуюцца ў перыядычным і навуковым друку. Для Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея і Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі праведзены спецыяльныя мінерала-археалагічныя даследаванні бурштынаў і вырабаў з іх, якія атрымалі высокую ацэнку спецыялістаў.

Беларусь — калыска многіх найважнейшых напрамкаў гісторыка-археалагічных навук. З дапамогай мінералагічных метадаў працамі археолагаў і мінеролагаў зацвярджаецца новы накірунак у навуцы — археалагічная мінералогія. І студэнты Брэсцкага педінстытута становяцца першымі слухачамі гэтага цікавага і патрэбнага курса.

Альберт БАГДАСАРАЎ,
прафесар, кандыдат геолага-мінералагічных навук.

## ПОМНІКІ АРХІТЭКТУРЫ

Івянец. Брама Чырвонага касцёла.

Фота Юрыя БОНДАРАВА.

# СЕМЕЖАВА

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.)

дзесьці да 1854 года. Пачынаючы з 70-х гадоў XIX ст., хаты будаваліся вялікія, з вялікімі зашклёнымі вокнамі і драўлянымі падлогамі. Будаваліся з круглых бярвенняў і былі заўсёды чыстымі, дагледжанымі, а перад святамі вышкрэбваліся нажамі не толькі з сярэдзіны, але і знадворку. З вуліцы хаты агароджваліся высокім плотам з варотамі і весніцамі.

Газа першы раз з'явілася ў Семежаве ў 1874 годзе. Першае яе з'яўленне было цікавым, асабліва для дзяцей, якія бегалі за прадаўцом-яўрэем і глядзелі, як "гарыць вада". Пасля з'яўлення газы з'явіліся і новыя свяцільнікі: "газнікі" і "ліхтарні". Ліхтарнямі карысталіся ў хлявах і гумнах.

Усе прылады апрацоўкі зямлі былі з дрэва: саха, барана, колы былі без шынаў. У Семежаве гаварылі так: калі пройдзе па зямлі жалеза, то хлеба не будзе. Металічныя прылады і вырабы пачалі прымяняць з пачаткам XX стагоддзя.

Штодзённым рабочым адзеннем было льняное. Жанчыны насілі кашулю, рукавы якой упрыгожваліся вышыўкамі з чырвоных нітак, а зверху апраналася шнуроўка і спадніца. Мужчыны летам насілі льняную кашулю і штаны, а ў халоднае надвор'е — кашулю і штаны, пафарбаваныя ў карычневы або чорны колер. Для верхняй кашулі і штаноў рабілася тканіна, у аснове якой адна нітка была льняной, а другая шарсцяной. У халодныя дні насілі суконныя курткі, а зімою кажухі.

Жанчыны мелі спецыяльны вясельны ўбор, які ў іншых выпадках ніколі не выкарыстоўваўся. Ф.Сцяпура апісаў яго наступным чынам: "Убор гэты складаецца з жупана, саяна і шнуроўкі. Жупан — гэта адзенне, зробленае з тонкага цёмнасіняга сукна, накшталт жаночага летняга паліта, бяз гузікаў. Саян — гэта з такога ж сукна спадніца, падол якой абшываецца шырокім, каля трох вяршкоў пасам з чырвонага кумачу. Шнуроўка — гэта гарсэт з чырвонага атласу ці шарсцяной матэрыі з абшыўкамі з мішурнага гасу. Абавязковай прыналежнасцю вясельнага ўбору лічыцца спецыяльная кашуля, пярэднік (хвартух) і намітка. Кашуля робіцца з тонкага палатна, рукавы якой упрыгожваюцца карункамі (вустаўкамі) з белых і чырвоных нітак, пярэднік робіцца з чырвонага ці іншага колеру кумача, а намітка з малінавага атласу. Карункі і шыццё павінны быць уласнага хатняга вырабу.

Неабходным атрыбутам жаночага ўбору, і не толькі вясельнага, але і будняга, лічацца каралавыя пацеркі, якія каштуюць іншы раз і 30 рублёў".

Жыхары Семежава вызначаліся вялікай працавітасцю, ашчаднасцю і ўзорам цвярозасці, п'янства ў шынку і ў быце здаралася вельмі рэдка. Зрэшты, як і бойкі ў сем'ях ды грубае, дэспатычнае абыходжанне. Жанчына ў доме заўсёды была паўнапраўнай гаспадыняй, а не рабою, муж ніколі нічога не рабіў без яе згоды і парады. Моладзь паводзіла сябе бездакорна сціпла і цнатліва, таму незаконных нараджэнняў не здаралася.

Земляробства местачкоўцы вялі трохпольнае, чаргаваліся сельскагаспадарчыя культуры так: ячмень — жыта — ячмень, а пазней: ячмень — бульба — жыта — ячмень. Але бульбы сеялі вельмі мала, ды яшчэ ў кожную баразну. Баранавалі два разы. Сеяць бульбу праз баразну пачалі на папоўскай зямлі. У 1890 г. яна дала вялікі ўраджай. Пасля гэтага і сяляне сталі сеяць праз баразну.

Першым семежаўцам, які пусціў перад сяўбой жыта папар, засеяны горкім лубінам, быў Марцінчык. Местачкоўцы гаварылі, што Марцінчык прапаў — будзе без хлеба. Але на наступны год жыта на папары было надзіва добрае, такое, якога ніколі не было на палях семежаўцаў. Таму ўсе гаспадаркі з гэтага часу пачалі пускаць папар, на якім сеялі пад заворванне лубін, некаторыя і канюшыну, пасля якой сеялі жыта.

У лістападзе 1917-га салдацкі камітэт 12-га Каліцкага памежнага палка ўсталяваў у Семежаве савецкую ўладу, якая праіснавала да сакавіка 1918-га. 18 лютага 1918 года нямецкія войскі, парушыўшы перамір'е, пачалі наступленне і ўжо ў сакавіку занялі Семежава, у якім прабылі да снежня 1918-га. Потым прыйшлі палякі.

У кастрычніку 1920 г. Расея і Польшча падпісалі ў Рызе мірную дамову, якая вызначалася дэмаркацыйнай лініяй Кіявічы — Лань, а нейтральная зона, у якую трапіла і Семежава, прайшла праз Случчыну.

Гэты час міжуладдзя, калі палякі адышлі, а бальшавікі яшчэ не прыйшлі, беларусы Случчыны выкарысталі для арганізацыі змагання за незалежную Беларусь.

14 лістапада 1920 г. быў скліканы з'езд Случчыны, які ўтварыў Раду Случчыны на чале з Уладзімірам Пракулевічам. Была сфармавана 1-я Слуцкая брыгада з чатырох тысяч чалавек пад камандаваннем Анцыповіча, а пазней — А.А.Сокал-Кутылоўскага.

У лістападзе 1920 г. Першы Слуцкі полк Слуцкай брыгады займаў участак па лініі Семежава — Вызна даўжынёю 20 кіламетраў. Бальшавікі пачалі барацьбу са Слуцкай брыгадай. На пачатак снежня 1920 г. іх войскі выйшлі на лінію ад м.Леніна па рацэ Случ да м.Тураў. Нейтральная паласа, якая ўтварылася паміж дзяржаўнай мяжой і лініяй бальшавіцкіх войскаў, паводле мірнай дамовы часцямі "чырвоных" не была занята. Толькі пасля папярэдняй згоды, атрыманай ад польскіх уладаў на заход войск савецкай Расеі ў нейтральную зону, на трое сутак (з раніцы 4 снежня 1920 г.) у яе былі ўведзены часці 8-й бальшавіцкай дывізіі. У выніку праведзенай аперацыі ў раёне Семежава частка аддзелаў беларускіх паўстанцаў была разбіта, і 7 снежня 1920 г. невялікая іх частка перайшла польскую мяжу. Палякі раззброілі 30 беларускіх афіцэраў і 400 салдат.

9 снежня 1920 г. штаб Слуцкай брыгады прызнаў, што пасля баёў у раёнах Капыля, Семежава і Вызны беларускія аддзелы адступілі да мяжы, а дзве роты адступілі на польскую тэрыторыю, дзе былі раззброены. Брыгада адышла да самай мяжы на 8 кіламетраў на захад ад Семежава, але не склала зброі. Было зроблена нескалькі спробаў адцясніць перадавыя часці бальшавікоў шляхам контрнаступу на Семежава і Вызну. 13 снежня 1920 г. Семежава было занята паўстанцамі, потым адбіта чырвонаармейцамі, а ноччу 18 снежня зноў было вернута пад беларускую ўладу. Ноччу 19 снежня была занята і Вызна, паўстанцы прасунуліся крыху на ўсход ад гэтага мястэчка. Днём 19 снежня бальшавікі зноў пайшлі ў наступ і захапілі Вызну. Паўстанцы пачалі адыходзіць на захад да в. Смолічы, а 20 снежня 1920 г. яны адышлі да в.Морач. У гэты ж дзень бальшавікі зноў уступілі ў Семежава.

28 снежня Слуцкая брыгада беларускіх паўстанцаў перайшла раку Лань, трапіла ў размяшчэнне 41-га польскага палка і была раззброена ды інтэрнавана ў раёне Сіняўкі.

Для арганізацыі акупацыйнай савецкай улады ў былой нейтральнай зоне і для кіравання ёю загадам камандуючага 16-й чырвонай арміі тэрыторыя Слуцкага павету была падзелена на тры часткі, для кожнай з якіх былі створаны рэўкомы: Пясочанскі, Харастоўскі і Семежаўскі. Яны падпарадкоўваліся Слуцкаму павятоваму рэўкому.

Семежаўскі рэўком узначаліў бальшавіцкі камандзір Валюкевіч, які меў у падпарадкаванні аддзел са 150 чырвонаармейцаў 17-й дывізіі і 20 конных міліцыянераў.

З лютага 1921 г. па май 1922 г. Семежаўскі рэўком узначальваў Пятро Навумавіч Грыцкевіч, які затым быў пераведзены старшынёй рэўкому в.Цараўцы Слуцкага павета. З верасня 1925 г. па верасень 1927 г. з'яўляўся сакратаром Дубровенскага РККП (б)Б, з 1930 г. — сакратаром Грэскага РККП (б)Б. У 1934—37 гадах — старшыня прафсаюза работнікаў сярэдніх школ БССР. У чэрвені 1941 г. добраахвотна пайшоў на фронт і быў камісарам 321 асобнага сапёрнага батальёна Заходняга фронту. Загінуў у кастрычніку 1941 г. пад Вязьмай.

З мая 1922 г. да канца 1923-га старшынёй Семежаўскага рэўкома быў Пятро Казадой — асабісты пісар Чапаева да дэмабілізацыі з чырвонай арміі, ураджэнец Семежава. У канцы 1923 г. ён быў мабілізаваны ў ВЧК, дзе змяніў прозвішча "Казадой" на "Смірноў"...

Сёння м. Семежава, як і ўся Краіна, жыве па сваім, па беларускім часе. Пішацца новая старонка ў кнігу Беларускага Лёсу.

Мікалай АЛЯШКЕВІЧ,
былы настаўнік Семежаўскай сярэдняй школы.

ЦІКАВЫ СУРАЗМОЎЦА

# Ці патрэбны мы Еўропе безаблічнымі?

"Непрадказальны Мальдзіс" — так назваў свой уступны артыкул у новай кнізе Адама Мальдзіса "І ажываюць спадчыны старонкі", выпушчанай сёлета выдавецтвам "Мастацкая літаратура", даўні сябра Адама Іосіфавіча літаратар Арсен Ліс. І думаецца, небезпадстаўна. Доктар філалагічных навук, Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, дырэктар Нацыянальнага Навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарына, прафесар Адам Мальдзіс ужо шмат гадоў быў для многіх непрадказальным сваёй настойлівасцю, нечакана адкрываючы чытачу Беларусі і свету яркія імёны нашай Айчыны, якія многія дзесяцігоддзі былі схаваны ад нас туманам небыцця.

І сёння гэты чалавек усё так настойліва і апантана працуе на ніве Адраджэння, сваёй адданай працай дае ўсім нам яркі прыклад служэння Айчыне, народу зямлі беларускай.

Сёння Адам Мальдзіс госць нашай газеты.

— Адам Іосіфавіч, раскажыце, калі ласка, пра свае вытокі беларускасці. Як і адкуль з'явілася ў вашай душы любоў да роднага краю, яго гісторыі і культуры?

— Відаць, яшчэ з маленства. А маленства маё прайшло на Астравеччыне — беларуска-польска-літоўскім пагранічны. Нягледзячы на такое геаграфічнае становішча, у гэтым куточку Беларусі усё ж пераважалі беларускія настроі. Вучыўся я ў Гудагайскай, затым — у Астравецкай школах. На ўвесь раён быў адзін дзесяты клас, у якім вучылася дзесяць вучняў. А любімым маім прадметам была беларуская літаратура.

— Але ж, мусіць, ужо тады быў для вас нехта прыкладам, кумірам?

— Так, праўда, гэта было ўжо крыху пазней, калі я стаў сябрам літаратурнага аб'яднання, што працавала пры Маладзечанскай абласной газеце. Хто з нас па маладосці не грашыў вершамі?!. А ўзначальваў яго добра ўсім вядомы наш Мікола Ермаловіч. Ён разбіраў нашы вершы — недасканалыя, поўныя рыторыкі. Дарэчы, сюды са Смаргоні прыязджаў і мой сябра Арсен Ліс, некаторыя іншыя, вядомыя сёння ў краіне літаратары, але гэта была ўжо першая спроба свядомай дзейнасці, шчырае юнацкае прызнанне ў любові да роднага краю. Я пісаў у раёнку, абласную газету, "Піянер Беларусі". Потым паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта...

Свядомая даследчыцкая работа па гісторыі роднага краю пачалася ўжо тады, калі я працаваў у Радашковіцкай райгазеце. Менавіта ў той час я пазнаёміўся з удавой Аляксандра Аўласава — рэдактара "Нашай Нівы", удавой Браніслава Тарашкевіча. У гэты перыяд я пачаў пісаць артыкулы па гісторыі краю, гісторыі культуры. Тады я ўжо свядома паступаў у аспірантуру Інстытута літаратуры. Мяне цікавіла гісторыя беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Лёс звёў мяне ў той час з Уладзімірам Караткевічам — гэтая акалічнасць істотна паўплывала на маю нацыянальную самасвядомасць. А потым у пачатку 60-х гадоў пачалі выходзіць мае першыя кніжкі...

— Адам Іосіфавіч, чым вы, як беларус, можаце ганарыцца ў першую чаргу?

— Цяжка сказаць, але ж, відаць, у першую чаргу тым, што я ўпершыню сказаў пра літаратуру XVII—XVIII стагоддзя. Лічылася чамусьці, што ў гэты перыяд у беларусаў нічога не было — "інтэлектуальная пустыня". Маўляў, паланізацыя і каталіцызм такое зрабілі з народам, што ён, два стагоддзі маўчаў. Неверагодна! Парадаксальна! Пачаліся архіўныя пошукі, а ў выніку гэтых пошукаў з'явілася кніга "На скрыжаванні славянскіх традыцый" — пра беларускую літаратуру пераходнага перыяду: ад старажытнабеларускай літаратуры, якая абапіралася на кніжную, старажытнабеларускую мову, у многім канфесійную, — да новай жывой, гутарковай, пераважна свецкай... Я адшукаў каля 150 твораў гэтага перыяду. Цэлы пласт песеннай лірыкі! Шырока пайшоў "Полацкі сшытак". Знайшоў я ў Вільнюсе песню касцюшкаўскіх паўстанцаў. Я не змог нават нідзе надрукаваць такіх слоў, як, скажам:

...Пойдзем усе мы да Касцюшкі, Рубаць будзем маскалюшкі.

А цяпер гэты твор друкуецца, і кожны добра разумее, што "маскалюшкі" гэта не азначае "рускія". Тут маецца на ўвазе салдат царскай арміі. Гэта не антырускі, а антыцарскі твор. Кнігу — "На скрыжаванні славянскіх традыцый", пра якую я гавару, лічу сваёй нялёгкай кнігай, якой можна мне, як беларусу, ганарыцца і якая, думаю, застанецца. Гэта — рэабілітацыя цэлага перыяду, сцвярджэнне таго, што ў Беларусі была і свая эпоха барока і эпоха асветніцтва.

Прынесла ў гэтым сэнсе мне задавальненне і кніга "Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя".

— Усе мы ведаем вас не толькі як цікавага даследчыка і вучонага, а і як дырэктара Нацыянальнага навукова-аветнага Цэнтра. Раскажыце, калі ласка, крыху больш падрабязна пра ваш Цэнтр.

— Наш Цэнтр узнік пасля таго, як усе мы адзначалі вялікі юбілей нашага слыннага земляка і асветніка Францыска Скарыны. Многія спачатку паціскалі плячыма: маўляў, нашто ён, гэты Цэнтр? Ёсць жа Інстытут мовы, Інстытут літаратуры, Інстытут гісторыі. Але ж навуковыя адкрыцці, на мой погляд, робяцца менавіта на стыку гэтых навук. А таму ў нашым Цэнтры сабраліся прадстаўнікі розных навук: мовазнаўцы, гісторыкі, літаратары — усяго 29 чалавек.

У іншых славянскіх краінах такія цэнтры з'яўляюцца цэнтрам нацыянальнай самасвядомасці. У Балгарыі — Цэнтр Кірыла і Мяфодзія. У Славакіі літаральна за тры гады пабудавалі такі цэнтр. Гэта — пятнаццаціпавярховы будынак, узброены сучаснай тэхнікай. Нашы славацкія сябры выдалі нядаўна "Славацкі біяграфічны слоўнік. Мы ж закончылі толькі выдаваць слоўнік-шматтомнік "Беларускія пісьменнікі". Але ж гэта толькі пісьменнікі, а дзе мастакі, ваенныя дзеячы, медыкі..?

Наспела неабходнасць і нам стварыць "Беларускі біяграфічны слоўнік".

— Якія ў вас склаліся стасункі з беларускім замежжам?

— Добрыя стасункі у нас склаліся з беларускай дыяспарай у Амерыцы; у прыватнасці, з Вітаўтам Кіпелем, Янкам Запруднікам і інш. Супрацоўнічаем з музеем Францыска Скарыны ў Лондане, з Аляксандрам Надсанам і інш. Мы значымся ў дзяржаўнай праграме "Беларусы ў свеце", павінны падрыхтаваць даведнік "Беларускае замежжа". З Канады перадалі нам архіў — у ксеракопіях. Перадаюць з іншых краін унікальныя мастацкія творы, фотаздымкі. Дарэчы, сказаць, у нас ужо сабраны біяграфічныя звесткі пра 800 дзеячаў культуры — беларусаў, якія па нейкіх аб'ектыўных прычынах не змаглі працаваць на карысць беларускага народа і працавалі для іншых народаў. На жаль, беларуская дыяспара абмежаваная ў фінансавых магчымасцях — сярод іх няма мільянераў, а тыя, хто дабіўся адноснага багацця, адыходзяць ад беларускага культурнага жыцця. Як урэшце і ў нас.

— Але ж, відаць, і ў нас ёсць людзі, якія аказваюць вам фінансавую падтрымку?

— Так, ёсць фірмы, якія дапамагаюць нам. Гэта — згуртаванне прадпрымальнікаў, фірма "Дайнова", беларуска-амерыканская фірма "Фіко", банк "Магнат", добрыя даўнія сувязі ў нас з банкам "Беларусь".

Дзякуючы такой падтрымцы, мы цвёрда прытрымліваемся пазіцый нацыянальнага Адраджэння, бо перш чым інтэгравацца разам з еўрапейскімі дзяржавамі, нам трэба набыць сваё, выразнае нацыянальнае аблічча. Ці патрэбны мы Еўропе безаблічнымі: без свайго менталітэту, без сваёй мовы, культуры, літаратуры, мастацтва...? Трэба, нарэшце, гэта цвёрда ўсвядоміць кожнаму беларусу, каб не хіліцца пад павевамі палітычных вятроў то на Усход, да Расіі, то на Захад, да Польшчы, а цвёрда і з пачуццём уласнай годнасці — наш народ нічым не горшы іншых народаў!

Гутарыла Святлана ХОРСУН.

## СТАРАЖЫТНЫЯ ГАРАДЫ БЕЛАРУСІ



Пінск.

# "У ТАМАША ЗАНА ВЁСАЧКА Ў БЕЛАРУСІ..."

ЁН БЫЎ КУМІРАМ МОЛАДЗІ, ЛІЧЫЎСЯ ЎВАСАБЛЕННЕМ ВЫШЭЙШЫХ РЫС ДУХУ І МЕЎ ВЕЛІЗАРНЫ ЎПЛЫЎ. АЛЕ НІХТО НА ЯГО РАДЗІМЕ СЁННЯ НЕ МОЖА СКАЗАЦЬ ПРА СВАЙГО СЛАВУТАГА ЗЕМЛЯКА НІЧОГА ПЭЎНАГА...

Тамаш Зан — чалавек найцікавейшага лёсу. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў першых рэвалюцыйных арганізацый на Беларусі і ў Літве. Паэт-рамантык і вучоны-прыродазнавец, найлепшы сябар А.Міцкевіча, Я.Чачота, І.Дамейкі, ён, бясспрэчна, быў яркай зоркай на небасхіле беларускага грамадскага і культурнага жыцця першай паловы XIX стагоддзя.

Жыццёваму і творчаму шляху Т.Зана прысвяцілі свае даследаванні літаратуразнаўцы і пісьменнікі Польшчы, Літвы, Расіі. Сярод нашых суайчыннікаў — Кастусь Цвірка, Валянцін Грыцкевіч, Адам Мальдзіс.

Найменш вывучаным па-ранейшаму застаецца пасляссылачны перыяд жыцця Зана. У 1841 годзе вечны выгнаннік вяртаецца нарэшце на радзіму. Займаецца навуковай і педагагічнай работай. З 1844 г. працуе інспектарам казённых маёнткаў на Лепельшчыне. Затым выходзіць у адстаўку. Менавіта ў гэты час накіроўваецца ў паездкі па краі, сустракаецца з падрастаючым пакаленнем. У далёкім ад сантыментаў Энцыклапедычным слоўніку Гранат гаворыцца аб ім: "Чалавек вялікай сілы волі і рэдкай душэўнай чысціні, ён быў кумірам моладзі, лічыўся ўвасабленнем вышэйшых рыс духу і карыстаўся велізарным уплывам". Біёграф Зана М.Дунай сведчыць аб прыязных адносінах яго да рускага народа. Пасля доўгіх гадоў царскіх кратаў і ссылак Т.Зан пры сустрэчы з вучнямі Віцебскай гімназіі, па ўспамінах аднаго з іх, перасцерагаў ад распальвання міжнацыянальнай варожасці: "Не трэба толькі ніякай нянавісці! Маскалі! Я іх ведаю, і паміж імі ёсць добрыя людзі. Я неаднойчы адчуваў гэта ў дні маёй ссылкі. Наш вораг — рускі ўрад, а маскалі, чэсна мыслячыя, нават гатовы дапамагчы нам адваяваць сваю незалежнасць. Рускія не менш за нас пакутуюць ад дэспатызму!"

У 1846 г. Зан ажаніўся з Брыгітай Свентажэцкай. Па парадзе Адольфа Дабравольскага і з яго дапамогай далі грошы і жончыны бацькі. Зан набывае невялікі маёнтак Кахачын у Аршанскім павеце Магілёўскай губерні.

Дабравольскі паставіў яшчэ і своеасаблівую ўмову: "Новаспечаны памешчык" павінен быў "аддзякаваць" яму, напісаўшы тут аўтабіяграфію.

Але гэтая добрая задумка, на вялікі жаль, засталася няздзейсненай.

Жыццё, хоць і нялёгкае, пайшло мерна і спакойна. Нарадзіліся чатыры сыны. Здаецца, жыць бы і жыць... 7 ліпеня 1855 года Тамаш Зан, акружаны бязмернай любоўю і ўвагай родных і шматлікіх сяброў, назаўжды пакінуў гэты свет. Пахавалі яго на каталіцкіх могілках у Смалянах. Вядомы мастак Напалеон Орда, наведаўшы ў 70-х гг. 19 стагоддзя мястэчка, славутае сваёй даўнінай, зрабіў малюнак "Помнік Тамаша Зана".

Але няўмольны час, больш таго, чалавечая абыякавасць і нават варварства прывялі да таго, што металічныя крыжы на помніках Т.Зана і яго жонкі, пахаванай побач, былі скінуты і разбіты, бясследна знікла ланцуговая агародка. І, урэшце, усе пахаванні старой часткі могілак маюць жудасны выгляд. Зараз, праўда, магілы сям'і Зана (тут пахаваны і іх сын Абдон) намаганнямі вучняў мясцовай школы прыведзены ў належны парадак.

Удалося прачытаць поўнасцю і надпіс на мемарыяльнай пліце, якая выбіта на вялікім валуне, што ляжыць перад помнікамі. Вось яго поўны тэкст (у перакладзе з польскай мовы): "Мілы Богу і людзям Тамаш Зан, памяць пра якога блаславенна ekkl.XLV:/ Жыў шэсцьдзесят гадоў. Памёр 7 ліпеня 1855 г. у Кахачыне. З Свентажэцкіх Брыгіда Зан пахавана побач са сваім мужам 23 жніўня 1900 г. ва ўзросце 81 год. Сын, іх немаўля Стась, памёр у 1854 г." Лацінскія літары дапамагла нам расшыфраваць сястра Андрыяна з аршанскага касцёла св. Іосіфа. Аказваецца, тут цытуецца біблейская "Кніга прамудрасці Ісуса, сына Сірахава", або яшчэ яна называецца "Эклезіястык" (там толькі імя іншае — Маісей).

Паставілі мы перад сабой і мэту знайсці Кахачын ці тое, што, магчыма, ад яго засталося. Звярнуліся перш-наперш да даведнікаў. Але такой вёскі няма ні ў "Слоўніку назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці", ні ў працах па тапаніміцы В.Жучкевіча. У "Опыт описания Могилёвской губернии", выдадзены ў канцы 19 стагоддзя А.С.Дзембавецкім, дзе, здаецца, падлічаны не толькі ўсе душы і хаты ў краі, але і кожнае дрэва ў лесе, Кахачын таксама не патрапіў.

Адам Міцкевіч у 1853 г. піша Ігнату Дамейку з Парыжа: "У Тамаша Зана вёсачка ў Беларусі..." Але ж дзе тая вёска? Вырашылі шукаць на месцы. Была адна зачэпка. К.Цвірка ў сваім эсэ "Лісце забытых алеяў" прывёў урывак з ліста Міхала Чарноцкага, дзе паведамлялася аб набыцці ім маёнтка Лёдневічы (цяпер вёска ў Сенненскім раёне), які знаходзіўся ў пяці вярстах ад маёнтка Зана. Дарэчы, М.Чарноцкі — малодшы брат выдатнага беларускага славяназнаўцы З.Даленгі-Хадакоўскага — пахаваны побач з Занамі. Помнік на магіле гэтага малавядомага публіцыста і гісторыка невялікі і амаль урос у зямлю.

Прыйшлі доўгачаканыя летнія канікулы, і краязнаўцы Смалянскай сярэдняй школы накіраваліся ў вандроўку на Сенненшчыну. Праходзячы па вёсках, пыталіся ў сталых тубыльцаў, ці ведаюць яны што-небудзь пра Кахачын. Усе паціскалі плячыма. Пабывалі мы ў 83-гадовай Васіліны Канстанцінаўны Кірыкавай, што жыве ў Ледневічах. Доўгі час працавала яна фельчаркай і таму дасканала ведае ўсё наваколле. Сагнутая пад цяжарам гадоў, але ў добрай памяці, ветлівая і жвавая жанчына расказала нам шмат чаго аб мінулым жыцці. А вось пра Кахачын нават не чула нічога ніколі. Гэта нас, шчыра кажучы, не вельмі засмуціла, бо адсутнасць выніку — таксама вынік. Значыць нас чакаюць наперадзе новыя захапляючыя падарожжы, сустрэчы з цікавымі людзьмі, прыемнае прадчуванне знаходак.

Яшчэ трохі раней, калі ўшчыльную заняліся пошукамі месца былога маёнтка Зана, звярнулі ўвагу на назву Какоўчына. У час паходу пабывалі і тут. Вёска вельмі прыгожая. Стаіць яна на ўзгорку, таму добра бачна здалёк. У цэнтры — сучасныя будынкі: сельскі савет, магазіны, клуб, пошта. Але пра далёкае мінулае вёскі нішто не згадвае, і ніхто нам не мог сказаць аб ім нічога пэўнага.

Праз некаторы час аўтару гэтых радкоў прыйшлося папрацаваць у аддзеле рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Праглядаў і шматтомны "Слоўнік геаграфічны Каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх", выдадзены на рубяжы XIX і XX стагоддзяў у Варшаве. І ў гэтым надзіва грунтоўным і інфармацыйна насычаным выданні Кахачына няма (пра што ўжо ведаў ад Грыцкевіча і Цвіркі). Бяру ў рукі другую частку дадатковага 15-га тома, і там на старонцы 39 чытаю: "Какоўчын, вёска і маёнтак Сенненскага павета... 6 дамоў, 46 жыхароў, царква, школа. Маёнтак, уласнасць Занаў...". Стоп! Аказваецца, не Кахачынам, а Какоўчынам валодалі Заны. Мо наблыталі складальнікі "Слоўніка?.. Пэўна, не. Але чаму змянілася назва? Ці то з цягам часу Кахачын зліўся з большай вёскай Какоўчын (але якая яна большая — 6 дамоў)? Ці то трансфармавалася назва? Карацей, патрэбны далейшыя пошукі. А што засталося ад сядзібы? Мяркую, і Заны жылі не ў мураваным палацы, а ўсяго толькі ў вялікім драўляным доме, пабудаваным пасля набыцця маёнтка (гэта вынікае з перапіскі гаспадара ў канцы 40-х гг.).

Ён жа ў страшэннай віхуры рэвалюцый і войнаў нашага бурлівага стагоддзя не захаваўся, хутчэй за ўсё, згарэў ці быў па старасці разабраны на дровы.

Наступныя два гады — юбілейныя. У 1995 г. — 140-я гадавіна з дня смерці "Архіпрамяністага", а праз год — 200-годдзе з дня яго нараджэння. Сваім гераічным і трагічным лёсам Тамаш Зан, безумоўна, заслужыў нашу памяць і шанаванне.

Віктар ЛЮТЫНСКІ,
настаўнік гісторыі
Смалянскай сярэдняй школы
Аршанскага раёна.

ВАЗЬМІЦЕ НА ЗАМЕТКУ

# Выпускі "Беларусазнаўства"

У шырокім сэнсе пад беларусазнаўствам мы разумеем абнаўленне зместу навучання і выхавання за кошт разнастайных ведаў, і найперш гісторыі Бацькаўшчыны, этнаграфіі, фальклору, народнага мастацтва, народнай педагогікі. Ужо закладзена добрая аснова для айчынных падручнікаў па гісторыі, геаграфіі, мове, літаратуры. А ўвогуле тут яшчэ шмат працы.

Важнае значэнне ў атрыманні ведаў аб роднай Беларусі, фарміраванні нацыянальнай свядомасці таксама павінна адводзіцца заняткам па інтарэсах, факультатывам і гурткам. У дапамогу педагогам як найлепш прыйдзецца распрацаваны інтэграваны курс "Беларусазнаўства". У яго ўваходзяць наступныя тэмы: "Беларускія народныя гульні, карагоды", "Фальклор, яго літаратурная апрацоўка", "Беларуская лялька", "Старажытныя абрады, звычаі, забавы. Беларускі народны каляндар" (для 1—4 класаў, дапаможнік выйшаў у 1992 г.); "Легенды і паданні зямлі беларускай", "Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва" (для 5—7 кл., 1993 г.); "Краязнаўства", "Этнаграфія беларусаў" (для 8—9 кл., 1993 г.); "Беларуская музыка", "Народнае дойлідства Беларусі" (для 10— 11 кл., 1994 г.).

Зыходзячы з таго, што паступае шмат заказаў, асабліва на першыя дапаможнікі, калектыў пры Беларускім навукова-метадычным цэнтры гульні і цацкі (БЦГЦ) працягвае працу над "Беларусазнаўствам". Яго другі выпуск, які мяркуецца здзейсніць у палепшаным выглядзе, будзе змяшчаць прыблізна наступныя тэмы: "Народная цацка", "Выцінанка", "Музычныя гульні", "Лялечны тэатр батлейка", "Беларусазнаўства для бацькоў" (дапаможнік для дашкольнага выхавання); "Народныя гульні і карагоды", "Беларуская лялька", "Народны каляндар", "Саломапляценне", "Гісторыя паняволенага народа: для бацькоў" (для 1—4 кл.); "Каляндарна-абрадавыя гульні", "Народнае мастацтва", "Беларуская батлейка", "Легенды і паданні зямлі беларускай" (для 5—8 кл.).

3-ці і 4-ы зборнікі першага выпуску можна набыць праз сістэму "Глобус", як і школьныя падручнікі, для Мінска і Мінскай вобласці — у БЦГЦ (220040, Мінск, вул.Някрасава, 5а, т.32-13-37). Папярэднія заказы на другі выпуск "Беларусазнаўства", які мяркуецца на канец 1995 года, можна прысылаць у Беларускі навукова-метадычны цэнтр гульні і цацкі.

Алесь ЛОЗКА.

